
«Купалінка» ў Ляневе→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Маладыя журналісты→5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 28 (3035) Год LIX Беласток, 13 ліпеня 2014 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

## Упарты нівец Янка Целушэцкі

У штогадовым плебісцыце на найлепшага земляроба і солтыса на Падляшшы, які праводзіць папулярная беластоцкая штодзёнка „Gazeta Współczesna" Янка Целушэцкі — солтыс Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны прымаў удзел ужо другі раз. Два гады таму апынуўся ён у першай пяцёрцы сярод 60 заяўленых солтысаў. Сёлета конкурс ён кончыў на трэцім месцы (22% галасоў, аддадзеных пры дапамозе эсэмэсак або ў галасаванні на купонах, выразаных з экземпляра газеты). Амаль увесь час вёў стаўку. Галасавалі на яго не толькі жыхары навакольных вёсак, якія ведаюць дзейнасць актыўнага солтыса. Пару гадоў таму Янка Целушэцкі здабыў быў першае месцы ў рэйтынгу гэтай газеты на „Індывідуальнасць года" на Гаўнаўшчыне.

— Функцыю солтыса выконваю чатыры гады. Я на гэтай грамадскай пасадзе першы раз, папярэдне быў я гмінным радным, старшынёй адной з пастаянных камісій па грамадскіх і сацыяльных справах (гэтай камісіі падлягаюць м.інш. установы аховы здароўя, сацыяльная апека, спорт і турызм), — кажа солтыс.

За той час, калі Янка Целушэцкі быў радным, праклалі тратуар ад Новага Ляўкова да Старога, удалося яму давесці да таго, што паправілі наверхню гравейкі з боку асфальтоўкі вядучай да прысёлка Новае Лякоўва, пастараўся аб падсыпку дарогі, што вядзе ў напрамку Лазовага (да Бора-Здруй). Клапаціўся ён і за паправу наверхні іншых бітумічных гмінных, павятовых і ваяводскіх дарог пасля зімы і вясенняга разводдзя. Як солтыс стараўся за рамонты паветак (пабудаваны новыя, з табліцамі аб'яў) на прыпынках, не дапусціў да ліквідацыі прыгожага стылёвага дашка над уязной брамай у былую ляўкоўскую школу. Паспяхова стараўся за паштовую ўкідную скрынку ў Ляўкове, за аўтобусныя даезды ў навакольныя вёскі. Турбаваў у справах жыхароў начальнікаў управы дарог, ПКС, улады.

— Цяпер дамагаюся, каб паправілі адрэзак у два кіламетры асфальтавай дарогі ад вёскі Плянта праз Новае Ляўкова ў напрамку Бандароў. Гэты адрэзак патрабуе неадкладнага рамонту! Атрымліваю ўсё абяцанні, таксама пісьмовыя. Чакаю!

Апрача дбаласці аб паправу інфраструктуры ў салэцтве, Янка Целушэцкі, актыўны грамадскі дзеяч і аніматар культурнага жыцця ў вёсцы і ваколіцы, ініцыюе розныя дзеянні дзеля інтэграцыі жыхароў. Ён, як сябра Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", далучыўся да ангажаванай групы, якая прабуе сваіх сіл на літаратурнай ніве і распаўсюджвае роднае слова ды сустракаецца па ўсіх вёсках Нараўчаншчыны з чытачамі на адмысловых, вельмі папулярных паэтычна-музычных спатканнях. Большасць аўтараў з гэтай групы пішуць і друкуюцца па-беларуску. Гуртуецца ён таксама з актыўным нараўчанскім гуртком Саюза пенсіянераў і інвалідаў (ён інвалід па зроку). Жыве ў драўлянай хатцы (адзначанай на конкурсе найлепш захаванай архітэктуры Падляшша) з нумарам 22 — на ростанях. Едучы па Новым Ляўкове пазнаеце яе: на ёй вісіць таблічка „Солтыс" і адваяваная для жыхароў чырвоная паштовая скрынка.

Солтыс Целушэцкі асабіста адчувае патрэбу прабывання са сваімі жыхарамі. Наведвае іх, асабліва старэйшыя асобы, у іх хатах і гаспадарках. Не раз ездзіў па прапісаныя ім лякарствы ў аптэкі ў Нараўцы, Гайнаўцы ці Беластоку. За свой поспех лічыць, што пасля размоў шмат жыхароў пачало тэрмінова плаціць падаткі (збор гэтых аплат — абавязак солтыса).

— Хаджу па хатах, прыпамінаю аб тэрміне заплаты. Некаторыя перадалі зямлю дзецям што жывуць у горадзе, а яны аб падатках забываюць. А наведаць жыхароў трэба, пабачыць, ці ў чым не маюць патрэбы, дапамагчы.

І заўсёды Янка Целушэцкі з „Нівай" — з новымі допісамі, і з новымі нумарамі, якія прапануе чытачам.

# Нашы солтысы сярод найлепшых




wspolczesna.pl

## Ала Каменская спявае з Козлікамі

Алу Каменскую, вядомую ўсім, і старэйшым, і найменшым беларусам Беласточчыны сваім салаўіным голасам, вельмі хваляць у Козліках Заблудаўскай гміны, а яна ахвотна дапамагае вяскоўцам. А вёска невялічкая, усяго 42 нумары, ды жыве тут амаль сотня чалавек. Прытым яны старэйшыя, у якіх калі нават і ёсць сотавы тэлефон, дык мелі яны цяжкасці каб адпраўляць эсэмэскі на сваю любімую солтыску. Яна тут салтысуе ўжо 12 гадоў! Кажуць у вёсцы, што такога солтыса неба ім паслала! Высокаму, пятаму месцу ў плебісцыце „Вспулчэснай", мабыць, паспрыялі таксама іншыя беларусы, сярод якіх Ала Каменская карыстаецца вялікай папулярнасцю. Калектыўна слалі на яе свае галасы сябры калектыву „Рэчанька". „Рэчанька" гэта адзін з трох калектываў, якімі займаецца козліцкая солтыска. Наступныя — моладзевыя „Каласкі" ды ансамбль у школе святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Усё Аліна жыццё — песня. З „Рэчанькай" (20 гадоў), у якой спявае сем жанчын з вёскі, Ала аб'ездзіла і Польшчу, і замежжа. Раней было ў ім дванаццаць жанчын, а ўсе яны адчуваюць сябе молада, асабліва калі ўзбіраюцца на сцэну. Жывучыя таленавітыя жанчыны далі 800 канцэртаў, здабывалі ўзнагароды на конкурсах беларускай песні і іншых. У 2007 г. на „Фестывалі хлеба" ў Мінску-Мазавецкім здабылі першы прыз, на Сеніярадзе „Арс" у Быдгашчы — I месца ў сваёй катэгорыі. Калі б тыя ўзнагароды былі большыя! Прыдалося б салідна адрамантаваць козліцкую святліцу! Шмат ужо самі зрабілі, пахадвочаныя Алай. Аклеілі сцены, за ўзнагароды купілі посуд, цырату на стол, пакрывалы на лавы. У гэтай святліцы гарыць культурнае і кампанейскае жыццё ў Козліках. Адбываюцца тут патанцоўкі для ўсіх жыхароў, а таксама навагодня забавы, арганізоўваюцца канцэрты, калядкі, праводзяцца тут юбілеі, паправіны пасля вяселляў, але і ўсё часцей хаўтуры...

— Я хацела б, каб гміна аднавіла нам святліцу, — кажа солтыска. — Бо ў нашай вёсцы жыхары пастаянна ёю карыстаюцца і яна вельмі нам патрэбная. А я як солтыска займаюся перадачай падаткавых наказаў, удзельнічаю ў сесіях Рады гміны, хаця не маю права голасу так як радныя, магу выказаць свае меркаванні, перадаю інфармацыі. Але займаюся і іншымі справамі — трэба памагчы людзям напісаць заяву, прашэнне, часам і высветліць-рассудзіць якую справу. Прыходзіцца аформіць справы і на пошце, пазбіраць аплаты за смецце, заплаціць ад усіх. І, бывае, заахвоціць разам з „Рэчанькай" да супольнага пачыну — да парадкавання пляцу пасярод вёскі.

Да гэтага таксама трэба талент мець, не толькі голас!

**(лук)**

### Шаноўныя чытачы!

З гэтага нумара «Нівы» цягам бліжэйшых трох месяцаў наш тыднёвік будзе чорна-белым. Да колеру вернемся пасля летніх канікулаў. Прычыны такога рашэння, як заўсёды, у фінансавых складанасцях. У апошніх гадах наступае змяншэнне фінансавай падтрымкі для газеты, а выдавецкія кошты не стаяць у месцы. У 2007-2014 гадах датацыі з боку Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі выглядалі наступным чынам:

2007 г. — 594 000 зл.
2008 г. — 537 000 зл.
2009 г. — 494 000 зл.
2010 г. — 480 000 зл.
2011 г. — 492 000 зл.
2012 г. — 495 000 зл.
2013 г. — 492 000 зл.
2014 г. — 470 500 зл.

Са свайго боку рэдакцыя будзе рабіць усе намаганні, каб нашыя чытачы ў кожным нумары газеты надалей атрымлівалі цікавыя журналісцкія матэрыялы. Спадзяемся, што нягледзячы на гэтыя пераходныя клопаты, наш тыднёвік будзе надалей гасцяваць у Вашых дамах.

З павагай
**Яўген ВАПА**





# Век залежнасці

Рэспубліка Беларусь зноў на дзяржаўным роўні 3 ліпеня адсвяткавала так званы „дзень незалежнасці”. Адсвяткавала з усімі ўжо звыклымі атрыбутамі. Парады, паўсюдная чырвань-зелень, квота абавязковага ўдзелу ў народнай радасці прадстаўнікоў устаноў і прадпрыемстваў — строга па спісе без права замены, марш-марш правай, марш-марш левай... Пакуль у Бразіліі футбольны карнавал, ва Усходняй Украіне вайна, у Беларусі савецкі марнатраў з выдаткаваннем вялізных грошай на ідэалагічнае афармленне пераемнасці „великой победы” ў вайне яшчэ мінулага стагоддзя, якая ніяк не можа скончыцца для савецкага чалавека ўжо семдзесят гадоў. Залежнасць ад той вайны такая глыбока хваравітая, што ад яе нельга пазбавіцца. Нельга, бо гэта апошні масавы міф, на якім трымаецца хлусня пра гісторыю Савецкага Саюза.

Праходзяць такія дзяржаўныя святы па звыклым сцэнарыі: галоўнакамандуючы ў вышытым ні то маршальскім, ні то генералісімускім мундзіры на трыбуне ў атачэнні адданых „саратнікаў”, пераапранутыя ў партызанак сучасныя камсамолкі, ветэраны НКВД з кілаграмамі ўзнагарод на грудзях, паламаны танкамі асфальт цэнтральных пляцаў. Адусюль гучыць музыка з яшчэ савецкімі героіка-пафаснымі песнямі і новымі хітамі кшталту „русский парень в огне не горит, русский парень в воде не тонет”. Проста, нейкія кібермонстры з камп'ютарных стралялак гэтыя „русские парни”. Спявае, дарэчы, хлопец з чыста беларускім прозвішчам. Дым шашлыкоў, стракатасць какошнікаў, сцягі Савецкага Саюза... Хоць усе ведаюць, што 3 ліпеня ад нямецкіх фашыстаў быў вызвалены толькі Мінск, значная частка Беларусі яшчэ заставалася пад акупацыяй. А можа гэтая дата як галоўнае дзяржаўнае свята была выбрана таму, што 4 ліпеня такую гістарычную вяху як Дзень незалежнасці адзначаюць у ЗША. Як раней казалі „дагонім і перагонім” альбо „сцеражыся карова са штату Аёва!”.

На прайшоўшым тыдні шырокая грамадскасць адзначала і іншыя святы. Так, у Будславе, гэтай неафіцыйнай сталіцы беларускага каталіцтва, прайшоў традыцыйны фэст у гонар Маці Божай Будслаўскай. Вернікі і духавенства разам ушанавалі ўжо 400-ыя ўгодкі з часу з'яўлення цудатворнай іконы. У Будславе вельмі прыгожы, а галоўнае светлы і натуральны фэст, дзе ўсё прасякнутае верай і беларушчынай, дзе тысячы людзей у адзіным духоўным парыве разам моляцца і спяваюць. Нікога туды не трэба заганяць праз сілу і па вызначаных спісах, людзі самі з радасцю ідуць у пілігрымку дзясяткі і нават сотні кіламетраў.

У розных мясцовасцях краіны і ў розныя дні святкавалася на мінулым тыдні і хіба найбольш старажытнае свята нашага народу — Купалле. Праўда, не ўсюды яно было дазволенае — у Мінску, прыкладам, у Жодзіне, чыноўнікі перастрахаваліся і забаранілі святкаваць. У адным з афіцыйных Купалляў — у аграгарадку Александрыя Шклоўскага раёна, узяў удзел і начальнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка. Ён з уласцівай толькі яму шчырасцю параіў беларусам не шукаць наіўна чароўную „папараць-кветку”, а будаваць шчасце ўласнымі рукамі. На гэтым тыдні кіраўнік Рэспублікі Беларусь адзначыць дваццатыя ўгодкі на чале дзяржавы — 10 ліпеня 1994 года якраз прайшоў другі тур першых і апошніх прэзідэнцкіх выбараў. За гэты час Аляксандр Лукашэнка паспеў нямала — нарадзіў сына, пабудаваў некалькі дамоў-палацаў у Драздах, пасадзіў нямала чалавек за краты. Не здолеў толькі пазбавіцца залежнасці ад савецкага мінулага. Без яго — мінулага — у светлую будучыню ніяк. Без „Лініі Сталіна” без камсамолак-партызанак, без ста франтавых грамаў з металёвага кубка, без шматлікіх танкаў і гармат на цэнтральных пляцах. І без „русского парня”, які непахісна стаіць на ўсіх рубяжах і лініях нашай абароны ў гэтым жорсткім захопніцкім свеце. Які не пакіне нас адных. Такая вось векавая залежнасць.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Вызваліць селядцоў!

Змены, змены, змены... У Беларусі вецер падзьмуў на свабоду. Вызвалілі некалькіх дысідэнтаў. Таксама вызвалены цэны на яйкі. І не толькі на яйкі, таму што і на некаторыя віды хлеба. Раней масавыя вызваленні ахапілі мыла, крупы, малочныя прадукты і ялавічыну, свініну і птушыныя мяса. Цэны на гэтыя прадукты, дасюль лімітаваныя дзяржавай, тут жа падскочылі (ці не праўда, ад радасці?) уверх. Некаторыя нават на 70%. Цікава, як справіцца ў гэтай новай сітуацыі селядцы? Нагадаю, што ў пасланні прэзідэнта народу некалькімесячнай даўнасці была ім прызначана ў бліжэйшы час, побач бульбы, асаблівая няўдзячная роля. Прэзідэнт Лукашэнка заявіў іх вязнямі сумлення вянучай беларускай эканомікі, якая не можа справіцца з вытворчасцю свініны, і таму аддаў іх у вечную дзяржаўную апеку. Без сумневу, гэта вышэйшая форма аўтарытарызму. Аднак грамадзяне Беларусі паставіліся да гэтага з філасофскай абыякавасцю. Цэлых 60 адсоткаў сярод іх (што з'яўляецца вынікам апытання) лічаць, што людзі, якія жывуць у Беларусі, жывуць лепш чым на Захадзе. Процілеглая кропка гледжання толькі ў 31,2 адсотка. Не дзіўны таму высокі індэкс аптымізму беларусаў. Гэта ў сваю чаргу тлумачыць іх абыякавасць да цэнавага зняволення селядцоў. Падобна як і да лёсу дзясяткаў актывістаў апазіцыі, затрыманых у лагерах і кормленых — калі не штодня, дык хаця б ад свята — бульбай і селядцом. Таму не сакрэт, што на ялавічыну або нават яечка ўсмятку пры бягучых цэнах на гэтыя прадукты ані асуджаныя за супрацў аўтарытарнай дзяржаве апазіцыянеры ні іншыя зняволеныя не маюць што разлічваць. Сацыяльная дзяржава, якая ўзяла на сябе кошт іх утрымання, проста не зможа сабе дазволіць такія выкрутасы. Як ні дзіўна, смакам бульбы і селядца павінна абысціся большасць грамадзян, якія жывуць па іншы бок калючага дроту. Але няма што абвінавачваць ва ўсім аўтарытарызм дзяржавы. У многіх выпадках ён незаменны. Хоць вызвалены цэны на многія тавары і паслугі, але, каб прадухіліць хаос у эканоміцы, улады распарадзіліся абавязкам сертыфікавання паходжання ўсіх прадуктаў паступаючых у продаж. Гэта, маўляў, каб утаймаваць цэны спекуляцыі. Правіла № 222 ад 1 ліпеня вымушае прадпрымальнікаў мець сертыфікаты на ўсе абарочваныя імі тавары, у тым ліку імпартаваныя з краін Мытнага саюза. На распродаж тавараў без сертыфікатаў прадпрымальнікі будуць мець больш за год. У адпаведнасці з новым Палажэннем, з 1 сакавіка 2015 года продаж тавараў без адпаведных дакументаў будзе забаронены. Праблема ў тым, што расійскія аптавікі і рынкі, якія пастаўляюць беларускім прадпрымальнікам тавары, сертыфікатаў не выдаюць. Ды і ўзлаваліся беларускія прадпрымальнікі, і не пайшлі на працу. Па словах прадстаўніка арганізацыі па абароне правоў прадпрымальнікаў «Перспектыва» Вячаслава Пілiпюка, не працавалі рынкі ў Баранавічах, Слоніме, Магілёве, Віцебску, Гомелі, Пінску і іншых гарадах. Таксама сведчыўся пустэчай базар у Гродне, што пасведчылі журналісты тэлеканала „Белсат”. Тым не менш, аўтарытарызм дзяржавы не пацярпеў пры тым ані крышкі. Вось вуснамі свайго прэзідэнта асцерагла яна мяцежных прадпрымальнікаў, што ад указу не адступіць і неслухаў паставіць строга ў роўны шэраг. Прытым, што трэба абавязкова адзначыць, вусны прэзідэнта гаварылі на чыста беларускай мове.

Бо, што як што, у Беларусі ўсё ідзе да лепшага. Да нядаўняга часу ніхто не мог далічыцца, колькі Беларусі ў Беларусі. А тут вось, на святакаванні з нагоды Дня незалежнасці, вядомы сваёй антыбеларускасцю Аляксандр Лукашэнка паказаўся як вызначаны абаронца «беларускай свабоды і незалежнасці», і, што варта падкрэсліць, большая частка яго прамовы выказана была на... беларускай мове. Асаблівым тут з'яўляецца тое, што да нядаўняга часу высмейваў ён беларускую мову, заявіўшы, што не падыходзіць яна ні для чаго. Ой, змены, змены, змены... Калі прэзідэнт Лукашэнка пачынае гаварыць па-беларуску, ён таксама можа вызваліць і селядцоў. Напрыклад, Указам № 223. Вядома, запісаным на беларускай мове. О, што гэта было б!

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Круг адзінства і братэрства

Як журналіст «Нівы» і звычайны грамадзянін я не мог не паехаць у суботу 5 ліпеня ў Крушыняны. Адчуваў я патрэбу не толькі чыста чалавечую, але як і грамадзянскі абавязак удзельнічаць у акцы (па ініцыятыве падляшскага ваяводы Мацея Жыўны) салідарнасці, які асуджае напад на мячэць і мусульманскія могілкі ў гэтай мясцовасці, у якой жывуць побач сябе палякі, татары, беларусы — каталікі, мусульмане і праваслаўныя. Нагадаю, што пад раніцу ў апошнюю нядзелю чэрвеня, у першы дзень Рамадана, невядомыя асобы ўчынілі пагром над гістарычнай мячэццю і каля трыццаццю надмагіллямі, што знаходзяцца паблізу на шматвяковых татарскіх могілках. На сценах храма васямнаццатага стагоддзя і надмагіллях намалявалі аранжавым колерам між іншым свінню і якар — сімвал «Polski Walczącej».

— Я не ведаю, ці віноўнікаў турбавалі спрэчкі з нагоды рытуальнага забою або пытанні, што тычацца нацыянальных і канфесійных меншасцей. Але той, хто гэта зрабіў, добра быў падрыхтаваны і дзейнічаў абдумана. Тут здарылася вельмі злая справа, зусім незразумелая для нас. Нікому мы нічога не зрабілі, — сказаў неўзабаве пасля адкрыцця гэтага факта Браніслаў Талькоўскі, старшыня мусульманскай рэлігійнай абшчыны ў Крушынянах.

Ваявода Жыўна не скрываў: «Напэўна вядома, што было дрэнна з іхнім веданнем гісторыі. Татары з'яўляюцца ад стагоддзяў моцным элементам супольнасці Рэчы Паспалітай. Мы рашуча асуджаем гэты акт вандалізму». «Мы зробім усё магчымае, каб злавіць злачынцаў», — паабяцаў у сваю чаргу прэс-сакратар Ваяводскай камендатуры Паліцыі ў Беластоку.

Амаль адразу былі замазаны малюнкі, а фірма, якая гэта зрабіла, не ўзяла за гэта грошай.

5 ліпеня ў Крушыняны прыехала група ў больш за сто асоб, якія салідарызуюцца супраць гэтага вандалізму. У супольнай экуменічнай малітве, разам з імамам маліліся прадстаўнікі праваслаўнай, каталіцкай і евагнельскай Цэркваў. Паявіліся жыхары рэгіёна, турысты, самаўрадаўцы, у тым ліку з Крынак і Шудзялава, палітыкі, гарцэры, прадстаўнікі яўрэйскай абшчыны і, вядома, самі татары, якіх каля дваццаці асоб жыве ў Крушынянах (з агульнага ліку каля дзвюх тысяч ва ўсёй краіне). Пасля малітвы, усе, узяўшыся за рукі, утварылі круг вакол мячэці, у знак адзінства і братэрства, падымаючы іх уверх.

— Разам мы ствараем гісторыю Польшчы і разам ствараем будучыню гэтага рэгіёну і гэтай краіны. Так будзе, ніхто гэтага не зменіць. Сёння гэтай прысутнасцю і гэтым кругам вакол мячэці паказалі мы, што ахопліваем вас апекай. Мы разам, і адчуваем сябе адной супольнасцю, адной абшчынай Падляшша. Мы тут разам, і ні адзін нават самы тупы выбрык, гэтага не зменіць, — запэўніваў татараў ваявода.

— Мы абавязаны стаяць сёння каля іх, як яны стаялі з намі на працягу стагоддзяў. Тэстам супольнасці з'яўляецца здольнасць да выказвання салідарнасці, асабліва тады, калі адбываецца зло, — падкрэсліў дэпутат Роберт Тышкевіч.

— Мы мусім асудзіць паводзіны тых, якія з'яўляюцца маргіналамі (віноўнікі інцыдэнту — М.Х.). Яны ў пройгрышы, — адзначыў Мечыслаў Башко, падляшскі віцэ-маршалак.

Пасля ўтварэння круга ўсе прайшлі на мізар (найстарэйшая магіла тут датуецца 1699 годам), дзе былі ўскладзены кветкі. Сярод іх была і яўрэйка, працаўніца амерыканскага ўніверсітэта, якая з хваляваннем сказала: «Гэта самы лепшы від сустрэчы, якую мы можам стварыць разам. Я ганаруся тым, што магу тут быць».

Ян Адамовіч, старшыня Саюза татараў у Польшчы, а таксама прадстаўнікі мусульманскай рэлігійнай абшчыны ў Крушынянах падзякавалі: «Сапраўдных сяброў спазнаеш у горы. Мы тут, каб служыць Польшчы, каб тут жыць».

Пры нагодзе акту салідарнасці ў Крушынянах я ўспомніў дзве апошнія штогадовыя сустрэчы прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей Падляшша ў ваяводы з прадстаўнікамі ўрада. Татары паўтаралі толькі адну просьбу да міністра адміністрацыі і лічбавізацыі: выдзеліць невялікія грошы на аб'вятленне мячэці і на маніторынг. З-за розных працэдурных прычын ім адмовілі. І зараз перад мячэццю ў Крушынянах спытаўся я ў сябе: ці сапраўдных сяброў у горы ў сённяшняй Польшчы сапраўды трэба спазнаваць толькі пры няшчасці? І колькі яшчэ падобных кругоў салідарнасці з меншасцямі, з «іншымі» прыйдзецца арганізаваць?

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Лянева, распаложанае непадалёк ад Чыжоў, апошнім часам вядомае арганізаваным побач сяла купальскім мерапрыемствам. Сёлета юбілейны, дзясяты беларускі фэст «Купалінка», наладжаны 28 чэрвеня каля рэчкі Локніцы, сабраў перш за ўсё жыхароў Чыжоўскай і суседніх гмін, якім блізкія сэрцу беларускія песні. Раней Лянева дзесяцігоддзямі было на Гайнаўшчыне вядучым асяродкам па вырошчванні трускалак і хаця гэты бізнес стаў малапрыбытковым, у Ляневе надалей вырошчваюць клубніцы. Нават адзін з атракцыёнаў «Купалінкі» гэта з'яданне навыперадкі порцыі трускалак.



# Юбілейны фэст «Купалінка» ў Ляневе

Беларускія народныя танцы цудоўна запрэзентаваў танцавальны калектыў «Перапёлка» Гайнаўскага дома культуры

Калі я ехаў на фэст у Лянева, заўважыў, што сенакосы ў Чыжоўскай гміне ўжо практычна закончыліся, нягледзячы на дажджлівае і халоднае надвор'е, бо ж і трава перарасла б, калі б земляробы чакалі больш спрыяльнай пагоды. Мала тамашніх гаспадароў рашаецца на гадоўлю кароў і таму важнейшае ім сонечнае надвор'е ў час жніва, бо ў Чыжоўскай гміне абрабляецца практычна ўсё ворыва, засеянае ў выдатнай большасці збожжам. На фэст прыбылі земляробы і жыхары вёсак, што працуюць у гарадах, а таксама выхадцы з навакольных сёл. У асноўным былі гэта малодшыя асобы, частка якіх засталася на танцы, якія завяршылі мерапрыемства. Перад публікай выступілі калектывы «Чыжавяне», «Верасы», «Збучанкі» і «Незабудкі» з Чыжоўскай гміны. Па-беларуску спявала маладая мясцовая спявачка Іза Карчэўская. «Чыжавяне» і спявачкі з арлянскіх «Вэрвачак» падрыхтавалі купальскія вянкі, якія пазней, спяваючы «Купалінку», апусцілі на рэчку Локніцу. У гэтым абрадзе прымаў удзел войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк, які раней падвёў вынікі арганізавання на працягу дзесяці гадоў мерапрыемства пад назвай «Купалінка». Гэта пад яго наглядам стала ладзіцца купальскае мерапрыемства, якое разраслося да маштабу вялікай звышгміннай імпрэзы.

— Калі мы першы раз наладзілі «Купалінку», сабралася нямнога мясцовых людзей і нам нават у галаву не прыйшло, што з часам мерапрыемства разрасціцца і стане шматлюднай імпрэзай. Тут вельмі прыгожае месца побач рэчкі. Сёння нават на гмінным інтэрнэт-сайце і на вэб-старонцы «transmitujemy.pl» можна глядзець прамую трансляцыю «Купалінкі», — заявіў дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк.

Фэст «Купалінка», які арганізаваўся дзясяты раз, ужо здабыў сваю пастаянную публіку. Прыцягвае іх сюды прыгожасць месца, песень і народных танцаў. Сам купальскі абрад выводзіцца яшчэ з паганства і ў далёкім мінулым ладзіўся ў гонар паганскага бажка Купалы. Аднак зараз, калі наведвальнікі Купалля — хрысціяне, пусканне вянкоў успрымаецца як народная традыцыя. Скаканне праз вогнішча падчас купальскага абраду ў Польшчы наогул не практыкуецца, што можна яшчэ спаткаць у Беларусі. Атракцыёнам лянеўскай «Купалінкі» было з'яданне дзеткамі і дарослымі навыперадкі порцый трускалак, якія падарыў Анатоль Лапінскі, што жыве ў Беластоку, а ў Ляневе вырошчвае клубніцы.

Беларускія народныя танцы цудоўна запрэзентаваў танцавальны калектыў «Перапёлка» Гайнаўскага дома культуры. Аднак зараз большасць жыхароў Лянева і навакольных сёл састаўляюць пенсіянеры, якім цяпер не да танцаў. Прыбылі яны на фэст, каб паслухаць свае песні і паглядзець на танцуючую моладзь. Маглі яны таксама паўспамінаць сваю моладасць, якая выпала на перыяд, калі паўсюдным заняткам жыхароў вёсак была апрацоўка зямлі і жывёлагадоўля. Напрыклад, у васьмідзясятых гадах у краявідзе Лянева познім летам дамінавалі высокія стагі льну і вялікія чэргі трактароў з прычэпамі і вазамі, загружанымі таксама льном. Яны павольна перасоўваліся ўперад днём, а спыняліся ноччу. У чэргах выстойвалі гаспадары Чыжоўскай і суседніх гмін, якія тады масава вырошчвалі лён.Тады льнаводства было намнога больш прыбытковае, чым вырошчванне збожжа.

— Жыхары Лянева масава вырошчвалі лён. Мы з мужам абсейвалі льном па некалькі гектараў поля. Зараз у нашым Ляневе, дзе ёсць 56 дамоў раскінутых на некалькіх вуліцах, жыве мала малодшых гаспадароў, а кароў увогуле ў нас не гадуюць. У асноўным нашы жыхары — пенсіянеры. Малодшыя выхадцы прыязджаюць сюды і рамантуюць свае хаты, — сказала солтыс Лянева Ірэна Плева.

Лянева стала спакойнай, пусцеючай вёскай, так як многія іншыя нашы сёлы. Калі ў першай палове мінулага дзесяцігоддзя войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк і Гмінны асяродак культуры ў Чыжах, якім кіраваў і надалей упраўляе Юры Якімюк, сталі арганізаваць беларускі фэст «Купалінка», у кароткую купальскую ноч стала рабіцца мнагалюдна як побач Лянева, так і ў самой вёсцы. Праз яе, ажно да раніцы, ездзілі аўтамабілі, а побач хат гаманіла моладзь, якая перамяшчалася пяшком. Здалёк гучала музыка. Большасць мясцовых жыхароў яшчэ за дня наведала беларускі фэст і паглядзела выступаючых калектывы.



«Маланка» з Бельска-Падляшскага займальна выступіла перад публікай (спераду купальскія вянкі)

— Я прыйшла, бо цікава паслухаць свае песні і паглядзець на выступаючых, — заявіла солтыс Ірэна Плева.

Арганізуючы беларускі фэст, гмінныя ўлады рэкламуюць таксама турыстычныя атракцыёны Лянева, распаложанага побач рэчкі Локніцы. У вёсцы ў асноўным пражываюць беларусы. Гасціннасць мясцовага насельніцтва, традыцыйны выгляд драўляных хат, мясцовае харчаванне і беларуская культура — гэта галоўныя козыры Лянева. Солтыс Ірэна Плева паведаміла, што падрыхтаваны ўжо праект будовы вадасховішча побач Лянева і вядуцца старанні прыцягнуць сродкі на інвестыцыю.

— Тут, каля Лянева, ужо і раней зрабілі пляціну і таму так многа вады. Каля Падрэчан таксама прапанавалася зрабіць на Локніцы вадасховішча, але гэта былі толькі ўступныя размовы, — сказаў Мікола Антаноўскі з Падрэчан.

Беларускія калектывы «Маланка» з Бельска-Падляшскага, «Арт-Пронар» з Нарвы, а таксама «Калінка» і «Гай» з Беластока ўдала запрэзентавалі аўтарскія творы і беларускія народныя песні ў цікавых апрацоўках. Калектыў «Вэрвачкі» з Орлі цікава выступіў з апрацаванымі народнымі песнямі. Ян Снарскі, лідар гурту «Арт-Пронар» з Нарвы паведаміў, што яго калектыў планує выдаць кампакт-дыск з новаапрацаванымі творамі.

— Я рады, што нас сёння так добра ўспрымае сабраная тут вялікая публіка, — заявіў музычны кіраўнік «Маланкі» Сяргей Лукашук.

Марыюш Харужы, музычны кіраўнік калектываў «Гай» і «Калінка», пахваліў купальскую атмасферу, шматлікую публіку і выступаючыя гурты. Яшчэ за дня пажарнікі прэзентавалі сабраным тушыльную тэхніку. Пагранічнікі запрэзентавалі свае прылады працы. Дзеткі забаўляліся ў гарадку гульняў, прасілі бацькоў купляць ім цацкі і ласункі.

— Калі распачынаўся фэст, было мала людзей, а паглядзіце колькі народу сабралася цяпер. Можа маладыя прыехалі, каб паглядзець выступ вядомага калектыву «Акцэнт», але ж і старэйшых як многа сабралася, — сказала пажылая жанчына.

Моладзь прыбыла на «Купалле» нават з аддаленых мясцовасцей і чакала выступу гурту «Акцэнт», які выконвае музыку ў стылі дыска-пола. Яшчэ да канцэрта я размаўляў з лідарам гурту Зянонам Мартынюком, ураджэнцам Градалёў. Пазнаёміўся я з ім гадоў трыццаць таму і ведаў, што ён узрастаў у беларускім асяроддзі.

— Беларускай мове ў падставовай школе вучыў мяне пакойны Ян Добаш, які пасля стаў войтам Арлянскай гміны. Асабліва запамяталіся мне заняткі беларускай мовы, бо мы выступалі тады з беларускімі прадстаўленнямі ў сваёй і іншых школах. Будучы вучнем падставовай школы, я выступіў на конкурсе беларускай песні ў Беластоку з песняй «У суботу Янка ехаў ля ракі» і заняў першае месца. У Бельску-Падляшскім на конкурсе савецкай песні я спяваў расійскую песню «Малітва мацеры», якую навучыла мяне настаўніца Зофія Карыцкая, — сказаў Зянон Мартынюк, якога музычны талент ужо тады належным чынам ацаніў наш тыднёвік «Ніва».

— Мне асабліва дарагім быў здымак зроблены на беларускім конкурсе і надрукаваны ў «Ніве», на якім было відаць як спяваю, трымаючы ў руках гітару, — гаварыў Зянон Мартынюк. — Беларускія песні я ахвотна спяваю таксама і цяпер, на сямейных мерапрыемствах. Мы з польскімі песнямі падчас канцэртаў выступаем па ўсёй Польшчы, але мая мара — выдаць кампакт-дыск з беларускімі песнямі. Я добра знаёмы з Юркам Астапчуком з «Прымакоў», Янкам Кавальскім з гурту «Лідар», а мая сястра выйшла замуж за сваяка Сяржкі Лукашука, былога дырэктара Бельскага дома культуры (родам таксама з Градалёў — А. М.). З дапамогай сяброў рэальнай справай з'яўляецца апрацоўка і аўдыязапіс беларускіх песень і выпуск кружэлкі.

Падчас міні-канцэрта вядомага ў Польшчы гурту «Акцэнт» маладая публіка спантанна ўспрымала Зянона Мартынюка. Пасля цікава запрэзентаваўся вакальна-інструментальны калектыў «Метро» з Гайнаўкі, затым неба расквецілі феерверкі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Мы і „Ніва”

У пятніцу, 20 чэрвеня г.г., я пацікавіўся, хто з Новага Ляўкова ды Плянты Нараўчанскай гміны ўзяў у рукі наш беларускі штотыднёвік № 25 ад 22 чэрвеня г.г. У Новым Ляўкове свежыя экземпляры „Нівы” мелі Марыя і Кастусь Целушэцкія і ў Плянце Яніна Ляткоўская (яна шматгадовая прадаўшчыца ў плянтаўскай краме ГС) ды Галіна Бірыцкая. Якраз пра спадарыню Галіну „Ніва” напісала ў артыкуле „Свята на Плянтах”. Яна прывезла на Свята беларускай культуры ў Беласток свае вышываныя ручнікі і іконы.

У суботу, 21 чэрвеня, паехаў я ў Навіны да пчаляра і самароднага паэта Канстанціна Ярашука. Сустрэў яго ў пасецы, дзе ён абследаваў пчол у вуллях. Ён купіў у мяне экземпляр 25 нумара роднага часопіса. Мы разгаварыліся. Спадар Кастусь цікава расказаў мне пра свайго бацьку і пра сябе — як праходзіла яго дасюлешняе жыццё-быццё (асабліва ў пасляваенны перыяд). Ён уважлівы чытач „Нівы” і захоўвае паасобныя яе экземпляры. На родны тыднёвік грошай не скупіць.

Занёс я „Ніву” суседцы Любе Скепка (яна маці намесніка старасты Гайнаўскага павета). Я наведваю старэйшых людзей. Мяне цікавяць іх аповеды, як ім жылося ў Ляўкове паўвеку таму і яшчэ раней. Ад іх даведваюся і пра сябе, які́м я быў у часы сваёй маладосці. Вядома гэта іх назіранні.

У нядзелю, 22 чэрвеня, быў я ў Ліпінах (ездзіў на ровары) і завёз солтысу гэтай вёскі Кацярыне Якубоўскай два экземпляры „Нівы” ды фотаздымкі з ліпінскага беларускага фэсту. У гэтым нумары беларускага тыднёвіка быў артыкул з трыма здымкамі „На Тройцу ў Ліпінах”. Тамашняе Таварыства „Крыніца” ўключыла яго ў сваю хроніку. 14 ліпеня яно запросіць „Ніву” на пячэнне хлеба ў святліцы. Такім чынам выканае адну з задач, якія запісаны ў праекце пад загалоўкам „Гатаванне здаровай ежы спалучае пакаленні”.

24 чэрвеня г.г. адзін экземпляр „Нівы” № 25 узяла да святліцы ў Старым Ляўкове яе кіраўнічка Крыстына Паскробка. Яна сказала, што яе зацікавіў перш-наперш артыкул „Летам над Семяноўкай”, які прачытала ў папярэднім нумары тыднёвіка.

25 чэрвеня ў мяне купіла „Ніву” Валянціна Самойлік (настаўніца на пенсіі) з Плянты. Яна чытае беларускі штотыднёвік пастаянна. 26 чэрвеня ўзяла ў мяне экземпляр „Нівы” мая пляменніца з Беластока і 27 чэрвеня — Валянціна Ігнацюк з Новага Ляўкова.

28 чэрвеня апошні, які меў, экземпляр 25 нумара „Нівы” я падарыў Тэрэсе Саковіч з Новага Ляўкова. Яе муж трагічна загінуў і яна сама гадуе дзяцей. Дзеці якраз дачакаліся канікулаў. Яны вярнуліся са школы і адразу ўзяліся чытаць „Зорку” — каляровы дадатак для дзяцей і моладзі ў „Ніве”.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

**Анатоль ПАРЭМБСКІ**

## „Каліна”

Праменнямі сонца зямля дзе сагрэта,
Праўдзівы там дзееца цуд.
Ад ранняй вясны і праз цэлае лета
Раскошна цешыцца люд.
Прыемным водарам свет заліваецца,
Кветачак — іх не злічыць,
Белыя, сінія і ўсе красівыя,
Так з імі хочацца быць.
Але адна з іх найболш знаменная
З тых, што засеяны тут,
Богам сасланая, свету адвечная,
Гэта — „Калінавы” куст.
Далёка чутны вашы родныя песні,
Так хочаца з вамі дружыць!
Вялікі дзякуй „Каліне” цудоўнай
За праспяваны пятнаццаць лет.
А слава твая ніколі не загіне,
Ты — як маёвы букет.
Жыві і цвіці нам, родная „Каліна”,
Жыві нам сто лет!

# Перастваранне Сакратавай спадчыны

— **«Гнілое ў здаровым»** гэта кароткае апавяданне Сакрата Яновіча, здавалася б, школьнае, банальнае. Яго пасланне, аднак, з’яўляецца ўніверсальным, і ад выбару слоў, якія выкарыстоўвае ў ім, памятаецца; стыль, форма і змест выбраны так, што застаюцца ў галаве. Я вельмі атаясамляўся са светам, які Сакрат паказаў у гэтым тэксце. Яго рэальнасць я пачаў інтэрпрэтаваць як фатограф у сваім ракурсе, — так гаварыў ужо цэнены ў Польшчы фатограф Павал Грэсь з Гарадка на першым этапе новага праекта, які пачынаўся з тэксту памерлага каля паўтара года таму пісьменніка з Крынак. Тэкст быў апублікаваны ў «Ніве» ў 1956 годзе. Гэтая гісторыя стала жыць іншым жыццём, перастворанымі маладым мастаком. Мастацкая дзейнасць Паўла Грэся з’яўляецца таксама спробай адрадзіць літаратурную спадчыну Сакрата Яновіча, даючы ёй новыя кантэксты і пошук крыніц усяго таго, што змянілася і змяняецца ў «гнілое».

Праект мастака складаюць серыі фатаграфій. Перад пачаткам сустрэчы ён размясціў інфармацыю аб спатканні (у беластоцкім клубе «Змена клімату») і нагадаў тэкст Сакрата Яновіча па-беларуску на адным з інтэрнэт-парталаў. Тут таксама можна было прачытаць, што гэта «фатаграфічнае дзеянне ў плыні суб’ектыўнага дакумента з элементамі творчасці, канцэпцыі ў макрамаштабе», і што датычыць «разбурэння здаровай тканкі, сімвалічных жэстаў інтэлектуальнай дэструкцыі ў прасторы, а таксама ў інтымнай сферы, паказвае гніль і яе характар на фоне здаровай масы». Мэта гэтага — «прыняцце канфрантацыі з кальказ стэрэатыпаў, устаноўленых на ўзроўні добра функцыянуючай прасторы суіснавання і талерантнасці».

У канчатковым рахунку праект мае завяршыцца выставай. Цыклы фотаздымкаў, якія прадставіў Павал Грэсь у «Змене клімату», з’яўляюцца спробай справіцца з гнілатой у сімвалічным сэнсе. У размове да пачатку выставы сказаў ён «Ніве»:

— Важны тут пласт інтэлекту, звязаны з распадам, а не з вызначаным месцам. Свет збуцвелы, і гэта ўжо ёсць у Бібліі. Гэта гнілата праследуе нас ад нараджэння да смерці, і нават пасля смерці таксама. Гэты Сакратаў тэкст, які я прачытаў некалькі гадоў таму, з’яўляецца адным з першых тэкстаў у «Ніве», калі ён пачаў прымяняць на практыцы літаратурную беларускую мову. Файнае было супастаўленне нібыта банальнай гісторыі кахання двух маладых людзей. Гэты ментальны свет, нягледзячы на многія гады, якія прайшлі, блізкі мне. Гэта банальная гісторыя, расказаная ў прыгожы спосаб, сядзіць у мяне ў галаве ад некалькіх гадоў, як і тое, як яе пераклaсці на мову, якую я выкарыстоўваю, мову фатаграфіі. Ну, я вырашыў гэта цяпер, калі яго ўжо няма.

Пры гэтым дадаў:

— Сакрат нават аб дробязях мог гаварыць на прыгожай мове. Я так не ўмею, такой мовы не ўжываю, нават не ўмею. Рабіць прыгожыя фатаграфіі выродлівых рэчаў гэта ўжо было, і мне не вельмі цікава. Для мяне задача складаецца ў тым, каб гаварыць аб дрэнных рэчах, неабавязкова прыгожым спосабам. На гэтай стадыі я імкнуся казаць пра чалавека на аснове знакаў, метафар праз дакумент. Наступны праект будзе больш непасрэдна звязаны з чалавекам і гніллю.



■ Павал Грэсь

На сустрэчу ў беластоцкай «Змене клімату» прыйшлі ў большасці беларусы, якія ведаюць Паўла Грэся не толькі як фатографа, але і цяперашняга старшыню Фонду «Віла Сакрата» — арганізатара мінулагодняга «Беларускага трыялогу», аднаго з арганізатараў фестывалю «Басовішча» і вядучага галерэю «Крынкі». Многія аб’екты, сфатаграфаваныя ім, не ставяцца да пэўных дэталёвых месц, і нават на тых, якія ідэнтыфікуюцца, не мае гэта само па сабе большага значэння. У асноўным гэта розныя тыпы аб’ектаў, здымкі якіх не былі падвергнуты нейкай асаблівай апрацоўцы. Мастак, гаварыўшы з намі, адзначыў:

— Многія аб’екты, знятыя мною, з’яўляюцца «ўніверсальнымі». Я спрабаваў знайсці рэчы трывіяльныя, як і Сакрат. На аснове трывіяльных рэчаў проста расказваю аб чалавечым свеце, незалежна ад таго, дзе свет знаходзіцца — ці ў Крынках, Беластоку, ці ў Варшаве. Адпраўной кропкай у маім мысленні з’яўляецца гнілата, штодзённасць, якая акружала Сакрата ў той час, калі ён пісаў свой тэкст у «Ніву», і аступала яго ў 60-х, і 70-х і 80-х гадах, якая яго вельмі кранула і, такім чынам, тое, што маем тут у беларускім асяроддзі сёння, у сэнсе спадчыны ад іх генерацыі ў выглядзе, напрыклад, БГКТ, такога «лёгкага і прыемнага» забеспячэння беларушчыны, што я не пагаджуся, таму што гэта супраць маёй прыроды. І ўсё, што ёсць ува мне, інтуітыўнае.

На адной з фатаграфій, паказаных у ходзе сустрэчы, можна ўбачыць сплеснявелыя хлеб і віно ды надгрызены яблык. Тыя ж прадметы спасылаюцца на сімволіку Бібліі. Павал Грэсь сказаў:

— Праз сваю гніласць і папсаванне пераклікаюцца з гісторыяй кахання, апісанай Сакратам. Гэта прыклад універсальнага распаду, які спасылаецца на сённяшнія праблемы. Гэты яблык і гэтыя прадметы паказваюць універсальны распад.

На іншым здымку боты, а побач тэпці — сімвал БГКТ:

— Гэта сімвалічныя элементы, якія апісваюць стан інтэлекту і сілы ўздзеяння на наша пакаленне, якое ў значнай ступені пад уплывам гэтай спадчыны.

У сваю чаргу, пакарабачаныя прадметы, такія як труба, або разваленыя электрычныя разеткі маюць адносіцца да пакрыўленай духоўнасці, маральнасці, унутраных дэфектаў, не заўсёды ўспрыманых іншымі. Бамбук — імпартаваны прыродны прадукт для падтрымкі недасканалай расліннасці, а ў сімвалічным маштабе аўтар таксама адносіць да стану чалавека. Гэтак жа, як надламаная і падгнітая ручка нейкай прылады (рыдлёўкі?), якая становіцца бескарыснай з пункту гледжання яе арыгінальнай функцыі. Гнілата ў працах Паўла Грэся таксама адносіцца, у прыватнасці, да архітэктуры і яе трактавання карыстальнікамі:

— Незразумелае для мяне і нелагічнае тое, чым акружаюцца людзі сёння. Гэты сядзібна-вясельны інтэр’ер, палацы з вялізнымі калонамі і арнаментам — такая гнілата ствараецца людзьмі для ўласнага выкарыстання, атачэнне светам, які не з’яўляецца натуральным.

На адной фатаграфіі ёсць нутро закінутага і разбураючагася школьнага класа, пабудаванага шмат гадоў таму для мясцовых патрэб:

— Дзе тая бесперапыннасць інтэлекту, ад пакаленняў, дзе гнілата гэтай ідэі, якая натхняла будаўніцтва гэтай школы і ўвогуле будаванне таго свету ў той час. Гэты факт таксама з’яўляецца разбуральнай формай гнілі.

Паявілася таксама гніль у ландшафце. Прыклад гэтаму — умяшанне ў пейзаж вялікафарматных, благіх рэклам:

— Акружае нас свет танных аб’яў, якія занадта агрэсіўныя і нападаюць на прыродны краявід.

Увагу прыцягвае фота прыпынку, занядбанага, не выконваючага сёння сваёй функцыі, нікому непатрэбнага, урослага ў ландшафт і ствараючага ўражанне, як быццам яго пажыраў лес:

— З часам тут пласт папсавання адкруціцца ў станоўчы бок: сам ландшафт абароніцца, сам справіцца з дрэннай тканкай.

У іншым цыкле паявіліся свіное вуха, рука і язык, як сімвалы слыху, дотыку і гаворкі:

— Кожны зможа заявіць, як выкарыстоўвае гэтыя пачуцці і як іншыя выкарыстоўваюць іх, колькі цвілі ў гэтых пачуццях. Было важна для мяне, каб гэта былі органы цела свінні, таму што гэтая жывёла абцяжарана сімволікай чалавека.

На фатаграфіях былі таксама мячэць і фрагмент могілак у Крушынянах, нядаўна апаганеных:

— Гэтай гнілаты нават не трэба тлумачыць.

Ёсць таксама тройка маладых чачэнцаў, якія жывуць у Беластоку, прадстаўленых з завязанымі вачыма на фоне Ратушы:

— Заслоненыя вочы не абазначаюць, што я хацеў бы паслаць ім адмоўны знак. Абсалютна не, наадварот. Гэта не толькі аб чачэнцах, але і іншых нацыянальнасцях у Беластоку і іх трактаванні тут як іншароднага цела, у, здавалася б, здаровым, добра функцыянуючым цэнтры, якім з’яўляецца Беласток. Я наткнуўся на шмат замежнікаў, якія кажуць, што яны разглядаюцца як непажаданы «гнілы» элемент.

Гэтую частку праекта закрываюць фашысцкія сімвалы (свастыкі і г.д.) на фрагментах чалавечых целаў, і, спасылаючыеся на нацыяналістычныя рухі ў Беластоку:

— Гэтыя фатаграфіі таксама адкрываюць наступны этап майго праекта: пра тое, як гэтая гнілата з ментальнага пласта ідзе на псіхічны і фізічны пласты і выяўляецца ў целе, праз умяшанне ў цела па ўласным жаданні, да таго, як змяняецца цела ад нараджэння да смерці, а затым што пасля гэтага з кожным з іх адбываецца.

Фатограф адзначыў:

— Працэс распаду прыводзіць не толькі да разбурэння.

І прыйшоў да высновы:

— Кожны мог бы зрабіць такі свой набор, са свайго свету.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Калі нас пагоняць, што ж...

„Цяпер падзельцеся на гурткі", — камандуе вядучая. Моладзь хутка падбіраецца ў чатыры ўжо выпрабаваныя часам і досведам кружкі. Толькі адна школьніца не можа знайсці сабе месца. Плача. Не так даўно адкінутая, вельмі расчараваная ёю сяброўка літуецца: „Перастань плакаць, давай да нас". Гурткі разбягаюцца па розных кутках галоўнай залы каўказскай сінагогі па вуліцы Пілсудскага ў Крынках. З калонак даносіцца аднастайны, двухтактны рытм. Моладзь намагаецца напісаць пад яго словы, стварыць сапраўдны рэперскі кавалак. Кожны куток выбірае ўласную тэму твора.


Юля і Ніка Волчук



Крынскія маладыя адэпты журналісцкага майстэрства

„Я тут жыў, калі быў малы, гэтыя вуліцы мяне выхавалі. Крынкі гэта месца, дзе я нарадзіўся і застану яшчэ як у рыне дажджы", — прабуе сваіх сіл пяцёра вучняў мясцовай гімназіі.

„Мая баба і маці глядзяць „M jak miłość", гэта ж наш сямейны серыял „M jak miłość", — рэпуюць з-за чорных куліс тры прыгажуні з фізіяноміяй лялькі Барбі.

— Нас якраз заінспіравала тэлебачанне. Часта яго аглядаем, найчасцей такія серыялы як „Barwy szczęścia", „M jak miłość", „Klan", — кажуць яны.

Іншая тройка надта сур'ёзных, калі не сумнаватых, дзяўчат рашыла напісаць пра крынскі посткалгасны пасёлак. Там яны нарадзіліся, там дарастаюць.

— Так неяк нас напала, — прызнаюцца. — Гэтым тэкстам мы можам выказаць свае эмоцыі, тыя пазітыўныя і тыя цяжкія, звязаныя з не надта ружовым дзяцінствам.

— „За гарамі, за лясамі, у горадзе званым Крынкамі ехаў вялікі, польскі кароль, шукаў лякарства на жончын боль". Гэта такая легенда, усе у Крынках яе ведаюць, — гаворыць Юля Волчук. — Так нас вучаць на ўроках гісторыі. Легенда распавядае пра Ягайлу, які падаўся на Літву ці Русь да сваёй Ядвігі. Забыўся з Кракава ўзяць для яе крынічную ваду. Папрасіў службу, каб у Крынках начэрпалі ў дзбан мясцовай вады. Ядвіга, паспрабаваўшы нашай вады, выздаравела. Жывот перастаў ёй балець і ўвогуле стала больш прыгожай, — завяршае гісторыю школьніца.

Юля на майстар-класах ужо трэці дзень, а яе малодшая сястра Ніка — другі. Сёстры відавочна знайшлі тут сваё месца.

— Разам рэпуем і вучымся журналістыцы, — аб'ясняе Юля. — Учора пісалі мы пра бусла. Спачатку наглядалі, як корміў ён сваіх буслянят, а потым апісалі гэта ў нашых першых рэпартажах. На майстар-класы папала я зусім выпадкова, заўважыла адчыненыя дзверы і ўвайшла. Мне адразу спадабалася, таму рашыла застацца. Думаю, што пачну пісаць. Мама гаворыць, што ў мяне вялікая фантазія. Так, можа мне трэба заняцца прыдумваннем нейкіх гісторый, — задумваецца Юля.

Удзельнікі майстар-класаў мелі тасама магчымасць памяняць крынскую рэчаіснасць хаця б у марах. Ані Крыштаповіч хочацца танцавальных і тэатральных заняткаў. Яе сяброўкам не хапае кіно. Хтосьці выдумаў, што пасярэдзіне крынскай кругавой развязкі павінна стаяць цікавая, шматфункцыянальная канструкцыя.

— Шмат чаму тут вучымся, лепш чым у школе. Тут проста цікава і ўсё ў галаве застаецца, — прызнаюцца ўдзельнікі майстар-класаў.

Некалькі слоў пра праект „Памежныя" сказала яго каардынатар Лена Рагоўская.

— Нашае Аб'яднанне практыкаў культуры — з Варшавы, але апошнім часам мы працавалі на ЛюблінШчыне. Мы проста страшэнна стаміліся сталіцай і сталічнымі дзяцьмі. Тамашняя моладзь ужо аб'елася ўсякага тыпу праектамі. Тут зусім інакш працуецца. Дзеці вельмі цешацца, не хочуць перапынкаў. Для іх гэта нешта новае. Таму мы рашылі пераехаць і папрацаваць уздоўж усходняй мяжы. Я сама выводжуся з Беластока, тут я ў сваім старонні. Праект ахоплівае тры мясцовасці: прыўкраінскі Далгабычаў, падляшскія Крынкі і Міхалова. У Далгабычаве мы заўважылі, што мяжа выконвае важную функцыю ў жыцці мясцовай супольнасці. Перш за ўсё там будуюць пагранпераход, а ў выніку разрастаецца вёска, пасяляюцца сем'і пагранічнікаў. Пра мяжу гавораць там шмат. Хаця мяжа корміць вёску, адносіны мясцовых людзей да яе неадназначныя. Таксама выглядае справа іх адносін да насельніцтва па другім баку — чужога. Пасля трох дзён, праведзеных у Крынках, я знаходжуся пад пазітыўным уражаннем. Учора ў час рэпетыцый мясцовага хору ветэранаў і жаночага калектыву „Экзіт" можна было пачуць, між іншым, беларускія песні. Для параўнання далгабычаўскі калектыў на нашу прапанову праспяваць штосьці па-ўкраінску, адрэагаваў цішынёй. Спачатку мы не маглі зразумець у чым справа. Толькі пасля нам шэптам аб'яснілі, што там такіх песень не спяваюць. Гэта пагражае абвінавачаннем у адсутнасці патрыятызму. Мы рашылі працаваць выключна з моладдзю, пісаць з імі песні, рэпартажы. Іх можна яшчэ сфармаваць, выхаваць, паўплываць на іх светапогляд. У Крынкі плануем завітаць не раз. Наша першая сустрэча накіраваная на стварэнне калектыву, які захоча нешта зрабіць. На чарговым этапе яны будуць рэалізаваць свае ўласныя ініцыятывы. Важнае, каб у гэтых ідэях паявіўся шматкультурны матыў. Мы тут толькі прыезджыя, таму не баімся вымаўляць словы „шматкультурнасць" ці „супрацьрасістоўскі". Асноўнае — дапільнаваць, каб маладыя не пераняли стэрэатыпаў і прадузятасцей дарослых. Гэтым будзем займацца ў канчатковым — фінальным — этапе праекта. Калі нас пагоняць, што ж...

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Экзамены па беларускай мове ў Літве

У Літоўскай Рэспубліцы беларускія матурысты з ліку ўсіх нацыянальных меншасцей дасягнулі лепшых паказчыкаў на выпускных (матуральных) экзаменах па роднай мове. Калі экзамены па рускай мове паспяхова здало 94,5% выпускнікоў, па польскай — 98,5%, то па беларускай — 100%. Гэта важнае дасягненне, тым больш што з 1999 г. выпускныя экзамены па роднай мове з'яўляюцца дадатковымі і здаюць іх толькі тыя вучні, у якіх ёсць такое жаданне. Несумненна, гэта мае на мэце прымяншэнне важнасці роднай мовы ў адукацыі нацыянальных меншасцей, хаця гэта афіцыйна тлумачыцца клопатам аб роўнай нагрузцы ўсіх выпускнікоў сярэдніх школ. Вучні рускіх, польскіх і беларускіх сярэдніх школ мелі адзін экзамен больш, чым іх літоўскія калегі. Дэкларацыя здачы выпускных экзаменаў па роднай мове становіцца тады своеасаблівай праявай патрыятызму.

Экзамен складаецца з трох частак: вуснай, праверкі разумення прачытанага тэксту і эсэ. Беларуская моладзь у Літве дасягнула лепшага выніку. Сведчыць ён аб добрай падрыхтоўцы да экзамену і аб моцных сувязях з культурай і традыцыямі Беларусі. Аднак існуе адна загвадка. Калі экзамен здавала 1089 палякаў, 453 расіян, то беларусаў было толькі 5. Практычна па-за Вільняй беларускую мову можна вывучаць толькі факультатыўна. Паводле перапісу насельніцтва ад 2011 года ў Літве пражывала 36 277 беларусаў. У параўнанні з папярэднім перапісам ад 2001 г. лік беларусаў скараціўся на 15,5%. Адначасна толькі 18,9% беларусаў назвала беларускую мову роднай. У гэтым кантэксце сёлетнія беларускія выпускнікі паказалі, што не толькі лічыцца колькасць, а якасць.

**Адам БОБРЫК**

## Беласток на роварах

Язда на веласіпедзе гэта ашчаднасць і вельмі важны для здароўя рух. Сёлета вясною ў Беластоку адкрылі пазычальні гарадскіх ровараў. Пунктаў пракату шмат і яны ў зручных для веласіпедыстаў месцах. Найбольш іх у цэнтры горада і пры галоўных вуліцах. Вялікім зацікаўленнем карыстаецца, між іншым, пункт пракату ля скрыжавання вуліц Вышынскага і Монтэ Касіна каля вакзала ПКС і другі — на Рынку Касцюшкі.

Цяпер на гарадскіх роварах (яны аднолькава абазначаны) ды на веласіпедных сцяжынках кожны дзень можна ўбачыць г.зв. цыклістаў на алеі Пілсудскага, на вуліцах Баранавіцкай, Браніцкага, Міцкевіча, 42 Пяхотнага палка (раней 27 Ліпеня), Кавалярыйскай і Пуласкага. Зараз у Беластоку налічваецца 90 кіламетраў дарожак для веласіпедыстаў.

Варта дадаць, што веласіпедныя сцяжынкі часта будуюць на вуліцах, якія перабудоўваюць і пашыраюць. Зараз такая перабудова ідзе на вуліцы Цыялкоўскага, а таксама Вярбовай і Канстытуцыі 3 Мая. Працы закончаць восенню гэтага года. Тут будуць новыя трасы для веласіпедыстаў. Пачалі пабудову 500-метровай веласіпеднай дарожкі ўздоўж алеі Пілсудскага на беразе рачулкі Белай пад двума мастамі.

І гэта не канец веласіпедных інвестыцый у Беластоку. Будаўнічыя брыгады сустрэнем на вуліцы Людовай і пры пабудове дарожкі пры дарозе ў Грыневічы ад мяжы горада да вуліцы Віядук. Магістрат намераны яшчэ будаваць дарожкі на Марчукоўскай і Хробрага. Чарговую такую інвестыцыю запланавалі на вуліцы Гэроя ўгета на адрэзку ад алеі Пілсудскага да вуліцы Жабінай. У Беластоку з кожным годам прыбывае веласіпедных дарожак.

**(яц)**



зорка
для дзяцей і моладзі
Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Залаты камень

Быў позні вечар. Саша сядзела на лавачцы і чытала кніжку. Ёй вельмі хацелася спаць. Вочы пачалі заплюшчвацца...

... І вось яна ўжо едзе на ровары па пушчы. Навокал многа дубоў, сснаў, ліп. Дзяўчына паглядзела ўбок. Што гэта такое? На дрэвах замест лістоў раслі цукеркі. А на кустах... грошы! Саша працерла вочы. Гэта ж неверагодна!

Далей у лесе яна сустрэла лесавіка. Ён збіраў грошы з кустоў. Пасля з лесу выйшаў кот. Ён загаварыў чалавечым голасам.

Саша злезла з ровара і пачала ісці па лясной дарозе. Здалёк яна прыкмеціла карэту, запрэжаную ў двое коней. Што робіць карэта сярод глухой пушчы?

Карэта пад'ехала бліжэй. З акна выглянуў стройны хлапец. Ён быў апрануты ў залаты плашч, на нагах меў чорныя чаравікі, галаву аздабляла залатая карона.

— Хто ты? — спытала Саша.

— Я — Бальтазар, князь гэтай пушчы. Ты, здаецца, згубіла дарогу. Хадзі са мной, — Бальтазар выйшаў з карэты і разам з дзяўчынай пайшлі крутой сцяжынай у глыб дрымучага лесу. Цягам гадзіны яны прыйшлі да вялікага палаца. Які ён быў прыгожы! Увесь у золаце, як плашч князя. Дзяўчына пасялілася ў палацы і жыла там цэлы тыдзень. Аднойчы наведаў яе Бальтазар і кажа:

— Неўзабаве ў нас адбудзецца турнір. Хочаш быць прынцэсай? Будзеш жыць у палацы да канца жыцця.

— Не магу тут астацца, — сказала Саша. — У мяне сям'я і дом. Мне трэба да іх вярнуцца. Яны пэўна перажываюць, шукаюць мяне па ўсім свеце.

— Шкада, — уздыхнуў князь і падарыў ёй на развітанне залаты камень. — Гэта камень шчасця. Я хачу, каб ты мяне памятала і каб нікому не гаварыла пра нашу сустрэчу...

— Гэта будзе наш сакрэт, — адказала Саша.

... І прачнулася. Ёй стала шкада, што сустрэча з Бальтазарам адбылася ва сне. Аднак дзяўчынка намацала нешта цвёрдае ў кішэні. Гэта быў камень. Той самы, які яна атрымала ад прынца ў пушчанскім палацы. Камень шчасця. Саша ўсміхнулася.

Пасля, дзякуючы гэтаму каменю, яна шмат разоў пападала ў палац і гаварыла з Бальтазарам.

**Юстына Марчук**
*— „Сустрачанская скрыня"*



# Тамара Саланевіч

Зялёны луг. За вёскай Гушчэвіна кабета грабе сена. Навокал лятаюць буслы. Жанчына думае пра свой новы фільм. Час ад часу вецер падказвае ёй думкі, вобразы. Фільм будзе пра развітанне з роднай зямлёй. Жанчына — гэта кінарэжысёрка Тамара Саланевіч. Яна прыехала да маці з Варшавы дапамагаць пры сенаванні. У сваім жыцці рэжысёрка спаткала розных людзей. Цяпер улады хочуць затапіць вёскі каля Семяноўкі. Тамара Саланевіч думае пра старых людзей, якім прыйдзецца пакідаць абжытыя месцы. „Гэта страшна!" — думае.

Так нараджаецца рэпартаж „Ці чуеш як плача зямля?".

Тамара Саланевіч здымае новы дакументальны фільм, які адначасова будзе мастацкі. „У ім памяць зраслася з вобразам", — гаворыць Ганна Кандрацюк. Мы сядзім сярод скошаных сенажацей. За намі пушчанская вёска Гушчэвіна.

**Максім Фіёнік**
*— „Пушчанскі голас"*







**Тамары Саланевіч**
*18.07.2014 г.*

Тамара,
Ты Нараўчанскай
зямлі мара.
Тут нарадзілася,
расла і вучылася.
Без бацькі гадавалася.
Жыцця свайго Ты не змарнавала.
Кончыўшы школу,
камеру ў рукі ўзяўшы,
у свет шырокі пайшла.
Быў Табе неабыякавы лёс
бедных і пакрыўджаных людзей.
Кожны меў у Табе надзею,
не адным Ты памагала.
Дзень 17 ліпеня 2000 года быў апошнім
на гэтым свеце Тваім днём.
Адвезлі Тваё цела аж у Міхалова,
далёка ад Нараўчанскай зямлі.
Затое каля роднай мамы і сваёй сям'і.
Аднойчы ехаўшы праз Міхалова,
на могілкі я там зайшла,
сярод многіх магілаў
Тваю магілу я знайшла.
Я стаяла задумана ў цішы,
услухоўваючыся, як векавыя сосны
над Тваёй магілай шумяць.
А камера Твая дзесьці маўчыць.
Зніч я запаліла, памалілася за душу:
хай зямля Табе лёгкай будзе,
бо зямля ў Тваім жыцці
заўсёды важнаю была.
Хацела Ты споўніць мары сваёй мамы,
якая зямлёй славілася і даражыла,
старалася, каб аблагамі не ляжала,
пакуль на гэтым свеце жыла.
Тамара, знай, што памяць пра Цябе
ў сэрцах нашых заўсёды жыве.
Бо ў Нараўчанскай гміне
такой другой не знойдзеш нідзе.

**Галіна БІРЫЦКАЯ,Плянта**



# СУСТРАЧАНСКАЯ ХРОНІКА (3)

У чацвер сустрэчам не было канца! Вечарам прыехаў да нас Міхась Гжэсь з прэзентацыяй двух фільмаў: „Відэа тоеснасць” і „Лавачка”. Першы твор расказваў пра маладых людзей з Крынак і Беластока, якія шукаюць або ўжо знайшлі тоеснасць. Другі фільм паказваў праблему знікнення беларускіх вёсак на Падляшшы.

Пасля прэзентацыі мы доўга гаварылі, ставілі пытанні госцю. Пыталі: як выглядала яго дарога да зразумення сваёй тоеснасці. Ці гэта адбылося ў хаце, школе? І які ўплыў мелі на гэта сябры?

Пасля сустрэчы мы мелі многа працы, усе хацелі пераліць свае ўражанні на паперу. Работа пайшла, аж кіпела. Многія з нас пісалі амаль цэлы вечар...

Таксама ў пятніцу раніцай мы пачалі дзень з творчай працы. Мы пісалі інфармацыі, працавалі над інтэрв’ю. Многія спадзяваліся, што так будзе выглядаць наш цэлы дзень. А тут — сюрпрыз! Пасля снедання мы паглядзелі фільм Тамары Саланевіч „Ці чуеш як плача зямля?”. Гэта самы вядомы дакумент рэжысёркі пра пабудову Семяноўскага вадасховішча. Нас чакала задача: трэба было знайсці супольнае ў фільмах „Свіцязь”, „Сейбіт”, „Ці чуеш як плача зямля?” і „Нараўчанская балада”.

Калі спалучыць легенды і факты, фантастыку і гістарычную праўду — атрымаецца больш кранальны і цікавы для гледача пераказ. Толькі цяпер мы зразумелі як шмат нявыказанага, мастацкага скрываецца ў дакументальных фільмах Тамары Саланевіч. Кожны вартасны фільм ці літаратура — гэта ўмелае спалучэнне розных светаў. Песні, рэлігійныя абрады, голас прыроды вельмі важныя для дакумента. Яны будуюць настрой і падказваюць дзе праўда і сэнс.

*(працяг будзе)*



## Тоеснасць

У час сустрэчы з Міхалам Гжэсем мы мелі магчымасць паглядзець фільм „Тоеснасць” з удзелам моладзі з Крынак і Беластока. Моладзь ва ўзросце ад трынаццаці да сямнаццаці гадоў разважала і гаварыла хто яны, якой нацыянальнасці і якога веравызнання.

Што цікава, у Крынках толькі старыя людзі карыстаюцца беларускай мовай і лічаць сябе беларусамі. Дзеці і ўнукі адчуваюць сябе палякамі. Размаўляюць толькі папольску.

Толькі дзяўчаты з Беластока сказалі пра сябе, што яны — беларускі. Фільм мяне ўзрушыў, бо паказвае праўду пра маё пакаленне.

Эва Аврчук — *„Пушчанскі голас”*

# НАТХНЁНЫ ЖЫЦЦЁМ

Што можа стаць натхненнем для напісання верша? Падчас сустрэчы з вучнямі Непублічнай пачатковай школы свсв. Кірыла і Мяфодзія распавядаў пра гэта вядомы паэт Віктар Швед. І хаця размова з ім працягвалася больш за гадзіну, ніхто з яе ўдзельнікаў не заўважыў, як бяжыць час.

Наш госць распавядаў пра тое, што з’яўляецца натхненнем для яго творчасці. А гэта... паўсядзённае жыццё. Прагучалі таксама прыклады, то-бок вершы спадара Віктара ў яго выкананні. Іншыя — чыталі вучні школы. Напрыканцы сустрэчы мы пачулі песні на словы Віктара Шведа.

Пасля мастацкай часткі спатканне наш госць падпісваў свае кніжкі, якія раней можна было набыць. У тых, хто гэта зрабіў, застанецца на памяць асабісты аўтограф ад паэта.

**Клаўдзія Галінская,**
**вучаніца 5-га класа НПШ**
**свсв. Кірыла і Мяфодзія**

# Вершы Віктара Шведа

## Хворы лекар

— Чаму цешышся, Ніна,
Весялосці так многа?
— Прыйшла я прад хвілінай
Ад лекара зубнога.

— Замест з болем змагацца
Ты ў добрым гуморы?
— Не было яго ў працы,
Лекар быццам бы хворы.

## Растуць зубы

Цэлы дзень ходзіць мама
З хворымі зубамі.
Пачула ад сыночка:
— Баляць табе зубочкі?

— Баляць, мілы сыночак,
Баляць удзень і ўночы.
— Яны растуць, вядома, —
Здавалася малому.

## З адной мовай я без слова

Сказаў жыхар вясковы:
— Жонка ведае пяць моваў.
І гэтым вельмі ганаруся,
Таксама ад яе вучуся.

— А мая жонка, Антолька,
Адну мову ведае толькі.
І мушу табе прызнацца.
Цяжка вытрымаць у хаце.

*Уршуля МАРЧУК, Нараўка*

## Зайчык

*Ён вушасты,невялікі,*
*З белым хвосцікам маленькім,*
*Бегае па лесе,полі,*
*Часта траўку паядае,*
*Калі есці нічога не мае.*
*Ваўкоў баіцца,ад іх уцякае,*
*Каб жыцця свайго не траціць.*
*Бо ён любіць жыць на волі,*
*Многа бегаць і скакаць,*
*Ад звяроў ліхіх уцякаць.*

# Польска-беларуская крыжаванка № 28

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 24:**

Чэрвень, сага, год, колас, моль, лівень, на, певень, ноч, засада, до, ты, маска. Чыгун, пах, род, лес, віват, ежа, веды, мена, конь, соль, шаль, нос, мастачка.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Марыюш Красько**, **Марыя Варанчук** з Арэшкава, **Магда Пташынская**, **Барташ Ламашкевіч** з Нараўкі і **Оля Пугацэвіч** з Беластока.

Віншуем!

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Winda | | | | | Ara / Art |
| Lipa | | Potrzeba | | | |
| Zdjęcie | | | | | Pas |
| | | Rzecz | | Chustka | |
| | Echo | | | | |
| Rebus | | | | | |
| | Lato / Czas | | | | |
| | | Re | To | | |
| | Er / Orzeszek | | | | |
| | | | | | |

## ПЕРАПРАШАЮ

Перапрашаю Васіля Петручука, што не запісаў яго на камеру і не паказаў у тэлебачанні. Разумею, што нікудышнім апраўданнем з майго боку будзе сцвярджэнне, што такога не памятаю. Паважаны спадар Петручук таксама „не памятае даты", але ж піша, што „калісьці" было („Часопіс" № 7-8/2014, с. 65). Не магу не верыць пісьменніку, тым больш, што праслыў ён у літаратуры ўчэпістай памяццю да дэталяў, асабліва тых, што былі калісьці. Застаецца мне толькі пакаяцца і абяцаць, што папраўлюся і буду старацца паказваць у тэлевізары ўсіх, хто таго моцна хоча.

А каб зноў не забыцца на ўчыненую мною крыўду, дык адразу перапрашаю Юрку Хмялеўскага, што яго не запісаў на сёлетнім Купаллі ў Залуках (29 чэрвеня). А мог жа гэта лёгка зрабіць, тым больш, што рэдактар „Часопіса" і дырэктар Гарадоцкага цэнтра культуры ў адной асобе некалькі разоў прабягаў побач з нашай камерай. Раз нават не стрываў і ўскрыкнуў: „О, у тэлебачанні забаранілі мяне паказваць!". Адрэагавала на гэтыя словы Ірэна Каранкевіч, старшыня Таварыства „Залукі над Супраслю": „Юрка, гэта ж не твой, а наш юбілей" (15-годдзе святкаваў калектыў „Каліна" з Залук, у якім спявае спадарыня Ірэна). Гэта праўда, тым не менш, непатрэбна я пакрыўдзіў чалавека. І то з-за банальнай прычыны — эстэтычнай. Проста, пастанавіў я запісаць на Купаллі не больш чым аднаго чалавека ў гальштуку. У войта Гарадоцкай гміны Веслава Кулешы быў прыгажэйшы, чым у Юркі Хмялеўскага і я запісаў першага. Наступным разам не буду глядзець на колер і ўзор гальштукаў, Бог з імі, уціснуў неяк у „Беларускі тыдзень" побач сябе і некалькі.

Пры нагодзе перапрашаю Юрку Ляшчынскага, на якога таксама пакрыўдзіўся Васіль Петручук у згаданым тэксце. Пры чым, назваў яго чамусьці, як і мяне, „абслугай камеры". Я, на жаль, пасля сямнаццаці гадоў працы ў тэлебачанні надалей не ўмею абслугоўваць камеры. Пагатоў Юрка, які не працаваў з такой апаратурай ніколі! Відаць стаяў побач маёй здымачнай групы і паважаны пісьменнік не ведаў, хто больш вінаваты ў тым, што ён у канцы канцоў не з'явіўся на тэлеэкране. А яшчэ правініўся і Сакрат Яновіч, якога за „Тэрмапіламі" (№ 15/2011) цытуе Петручук: „...Юрка сябруе з былымі афіцэрамі тайных службаў (Пе-ук) і з цяперашнімі шпіёнамі (напр. Гла-кая)". Не бяруся ацэньваць св. памяці Сакрата, наколькі яго рэзкая ацэнка справядлівая, тым не менш, добра было б, каб літаратар літаратара чытаў са зразуменнем. Глыбокапаважаны спадар Петручук, дык Яновіч у згаданым Вамі тэксце пісаў не пра таго Юрку. А пра якога? Папытайцеся ў рэдактара Хмялеўскага.

На канец маёй споведзі грэшніка, хацелася б уліць лыжку мёду ў бочку дзёгцю, якую бясконца коцім, выконваючы нашую няўдзячную, хто журналісцкую, а хто літаратурную працу. Хацелася б пажадаць Васілю Петручуку, каб ён хоць раз глянуў на свет праз весялейшыя акуляры. Спадар Васіль, дык мы ж — Вашыя чытачы — паважаем Вас і любім. Разумею, што Вашае цяжкае, гаротнае, басаногае і галоднае дзяцінства не дазваляе Вам убачыць вясёлкі на небе яшчэ і сёння. Тым не менш, паверце мне, свет не чорна-белы і не шэры, а мае шмат колераў і адценняў. І добрыя людзі здараюцца не толькі сярод афіцэраў КБВ ды СБ.

Жадаю моцнага здароўя, творчага натхнення і большай веры ў людзей.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Людзі, чытайце кнігі!

Што рабіць, калі за акном шэрае, халоднае ды дажджлівае надвор'е? Што рабіць калі чакаем у даўжэзнай чарзе да лекара? Або калі мы захварэлі на прастуду ці павярнулі нагу, якую маем у гіпсе, ды ў нас шмат свабоднага часу? Што рабіць са свабодным часам, калі ў тэлебачанні няма нічога цікавага паглядзець? Толькі не ўключайце камп'ютар! Гэтую цацку прыдумаў нейкі хітрун, каб адцягнуць мільярды маладых людзей ад кніг, каб маладыя не мелі свайго хобі ды зацікаўлення, каб пралівалі свае думкі, злосць, зайздрасць, нянавісць у інтэрнэце, а нехта нашыя думкі збірае, калекцыянуе і за нейкі час выкарыстае для сваіх нахабных мэт. Увогуле ўсякая электроніка створаная дзеля таго, каб маладым людзям забіраць час на самастойныя роздумы, мары, развовы. Сучаснае пакаленне маладых зусім не ўмее самастойна думаць, нішто іх не цікавіць. Гэта відаць на аўтарскіх сустрэчах, калі моладзь зусім не пытае аўтараў пра іх творчае жыццё. Аднак вернемся да мэты нашай размовы. Калі не тэлебачанне, калі не камп'ютар, інтэрнэт, то як цікава правесці час? Застаецца адно — пачытаць добрую кнігу. Бо ж

### найважнейшае, каб кніга нас зацікавіла

Заўжды яна зразумее, заўжды спагадае, і час хутка зляціць, а не адзін сюжэт або цікавая фраза застануцца ў нашай памяці. Памятайце — няма большага шчасця як узяць у рукі кнігу ды адплыць у чароўнае падарожжа, у якое запрашае нас аўтар. Няважнае ці гэта будзе паэзія ці проза, ці гэта будуць вершы, паэма, апавяданні ці раман; ці гэта будзе кніга некім прапанаваная ці купленая ў антыкварыяце ці пазычаная ў бібліятэцы. Памятайце, што дзень без кнігі гэта страчаны дзень у нашым жыцці. Добрых кніг ёсць вельмі многа, паколькі многа на свеце дзяржаў, народаў, а ў іх — тысячы цікавых паэтаў, пісьменнікаў. А кожны пісьменнік адлюстроўвае даўно забыты свет. У кожным героі кнігі можам знайсці часціну свайго характару. А добрых пісьменнікаў у нас пад дастаткам. Няважнае, які жанр літаратуры чытаем, якой нацыянальнасці сам пісьменнік ды пра што апавядае кніга. Добрая кніга хавае ў сабе загадку, якая трымае нас у напружанні да апошняй хвіліны. Добрая кніга мае звышчасовую мараль. Аўтараў добрых ды цікавых кніг не трэба далёка шукаць, бо мы, беларусы, маем сваіх добрых аўтараў, такіх як Кузьма Чорны, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Іван Мележ, Максім Гарэцкі, Якуб Колас ці нават наш беластоцкі Міхась Андрасюк і многа многа іншых майстроў слова.

### Чытанне кніг гэта найбольшае шчасце

Добра памятаю маю пакойную бабульку Маньку Самасюк-Буйнюк, якая вельмі шкадавала, што не ведала літар ды не ўмела чытаць. Заўжды гаварыла мне, што будучы на пенсіі мела шмат часу і каб умела чытаць, то чытала б кнігі з вялікай ахвотай. Таму я з самога дзяцінства чытаў маёй бабулі і яе сяброўцы-суседцы Галене Калішук (якая наведвала бабулю) беларускія казкі, „Ніву" ды Біблію. Якія ж яны былі мне ўдзячныя за пачутыя імі кнігі, а асабліва за Святое Пісанне! Я ніколі не бачыў у жыцці шчаслівейшых людзей ад маёй бабулі ды яе сяброўкі Галены. Менавіта чытанне кніг — гэта непаўторнае шчасце, якое мы павінны перадаваць з пакалення ў пакаленне. Мая сяброўка-паэтэса кажа, што не чытае кніг, бо не мае часу, бо мае сям'ю ды дзвюх дачушак. „То чытай кнігі сваім дзеткам!" — раю ёй. Як прыемна калі ад малога перадаецца любоў да кнігі малым дзецям. Адной нядзелькай са сваёй нявестай наведваем сям'ю майго найлепшага сябра Янкі. Як прыемна бачыць як яго дачушка просіць мяне пачытаць ёй кнігу! Як добра выхаванае гэтае дзіця! Гэта ж самае шчасце! Або мая нявеста пытае сваю пляменніцу аб тым, што хоча атрымаць, а яна просіць толькі кнігу. І гэта называецца шчасце. З такіх дзяцей вырастуць разумныя людзі. Менавіта кніга гэта непаўторнае шчасце, якога нам не перадасць ні тэлебачанне, ні добры фільм, ні музыка, ні інтэрнэт. Гляджу на маладое пакаленне, якое траціць свой цэнны час на камп'ютарных гульнях, сядзіць закрытае ў чатырох сценах ды нідзе не выходзіць. Яны ніколі не будуць шчаслівыя, стануць нявольнікамі сучасных тэхналогій. Але я ніколі не кажу, што інтэрнэт гэта найбольшае зло. Усё створанае для людзей, але каб мы карысталіся з мерай. Менавіта інтэрнэт можна выкарыстаць як цудоўную крыніцу для шукання цікавых аўтараў ды непаўторных кніг. Напрыклад, партал Вікіпедыя — гэта цудоўная крыніца шукання цікавых кніг. Тут падрабязна прадстаўлены біяграфіі пісьменнікаў з цэлага свету, рэцэнзіі найцікавейшых кніг ды апісаная гісторыя літаратуры кожнага народа. У інтэрнэце ёсць многа крам з кнігамі, дзе можна купіць любую кнігу намнога танней, чымсьці ў традыцыйнай кнігарні.



### Кнігі дзяцінства гэта найпрыгажэйшыя сентыментальныя ўспаміны

Чытанне кніг — гэта мае сентыментальныя і самыя прыемныя ўспаміны. Добра памятаю, як ад пачатковай школы я многа чытаў. Гэта бачылі мае настаўнікі ды пазычалі мне свае кнігі. Памятаю як я, малы хлопчык, быў захоплены гісторыяй плямёнаў індзейцаў ды чытаў усе кнігі пра іх. Гэта заўважыў мой настаўнік, а заадно выхавацель Юры Назарэвіч. Таму ён спецыяльна са сваёй прыватнай бібліятэкі пазычыў мне калекцыю кніг Карла Мая. Я за час зімовых канікул прачытаў іх усе. Аднак з найбольшым сантыментам успамінаю як я на канікулы ездзіў на веласіпедзе да майго дзядулі Ваські Міранчука ў вёску Рудуты. На гарышчы дзедавай хаты была вялікая хатняя бібліятэка, а ў ёй — самыя цудоўныя і цікавыя кнігі сусветнай, у тым ліку беларускай школьнай літаратуры. Былі там кнігі Івана Мележа, раманы Васіля Быкава, зборнік вершаў Максіма Багдановіча, раманы Жуля Верна ці Аляксандра Дзюма, творы Уладыслава Умінскага ды многіх іншых аўтараў. Таму я дадому ў Малінніках вяртаўся з сумкамі поўнымі кніг, у якіх з захапленнем зачытваўся на канікулах ці ў шэрыя, дажджлівыя восеньскія дні або доўгія зімовыя вечары. Памятаю таксама як штогод пад свята прарока Ільі да нас, у Маліннікі, прыязджала са Стшэгома мая цётка Надзя (родная сястра майго бацькі) з дзядзькам Юзікам. Дзядзька Юзік быў вельмі цікавым чалавекам, бо меў шмат хобі: крыжаванкі, спорт, а пры тым чытанне кніг. Гэта дзякуючы яму я захапіўся кнігамі Марка Твена, Аляксандра Дзюма. Прачытаў славутага „Робін Худа". Я заўсёды здзіўляўся як дзядзька хутка рашаў усе крыжаванкі. „Бо твой дзядзька многа чытае кніг", — заўсёды адказвала мне цётка Надзя. І так пакуль цётка з дзядзькам прыязджалі да нас, то канікулы майго дзяцінства засталіся ў маёй памяці найпрыгажэйшымі ўспамінамі майго дзяцінства. З сумам я прыняў у мінулым годзе навіну, што дзядзька Юзік памёр. Аднак найбольшае захапленне да кніг перадалі мае родныя бацькі — Марыя і Васіль Буйнюкі. Гэта дзякуючы майму бацьку я захапіўся беларускай літаратурай і ў час вучобы ў пачатковай школе ў Малінніках прачытаў усе беларускія кнігі ў нашай школьнай бібліятэцы. Мой бацька асабліва цаніў прозу Васіля Быкава ды паэму Якуба Коласа „Новая зямля", якой і я сам захапіўся ды перачытаў яе некалькі разоў. Але найбольш памятаю свой першы кантакт з кнігай. Памятаю як нас, малых дзетак, упершыню ў школьную бібліятэку завяла Марыя Варабей — нашая школьная бібліятэкарка. Яна паказала нам як карыстацца бібліятэчным каталогам. На канец прапанавала нам узяць па адной кнізе. Добра памятаю як хлопцы ўзялі па адным экземпляры кнігі Міхася Шаховіча „Вада ў рэшаце". Гэта была мая першая ў жыцці прачытаная кніга. Які ж я быў тады шчаслівы ад таго, што прачытаў сваю першую кнігу! Я заўжды вельмі рады за так прыемныя ўспаміны з дзяцінства, дзякуючы менавіта прачытаным кнігам. А

### маё захапленне кнігай працягваецца...

Чытаючы ў дзяцінстве творы маіх калег-"белавежцаў" я нават не думаў, што сам калісьці самастойна буду пісаць вершы, што буду мець свае зборнікі паэзіі і што пісьменнікі стануць маімі найбольш вернымі сябрамі ды прыяцелямі. А гэта дзякуючы кнігам. І я заахвочваю ўсіх чытаць і адкрываць чароўны свет кніг. Не марнуйце часу на тэлебачанне, на камп'ютарныя гульні, сацыяльныя сайты ці інтэрнэт. Я, хаця ўжо дарослы чалавек, маю намнога менш свабоднага часу, чымсьці ў дзяцінстве, то стараюся гэты час выкарыстаць на сустрэчу з кнігай. Я захапляюся многімі аўтарамі ды многімі літаратурамі ўсяго свету. Асабліва з захапленнем чытаю класічную літаратуру канца XIX ды пачатку XX стагоддзяў. Я сам шмат адкрыў новых цікавых аўтараў, пра якіх час ад часу пішу ў „Ніве". Лепш пачытайце кнігу, так як гэта робіць многа людзей едучы на працу гарадскім транспартам. Таксама ў доўгае падарожжа цягніком ці аўтобусам забірайце не каляровую газетку, а менавіта кнігу, з якой карысна ды прыемна і хутка міне час падарожжа. Бо што ж у дарослым жыцці будзеце ўспамінаць як не першае сваё захапленне кнігай, якая найбольш блізкая вашаму сэрцу.

**Юрка БУЙНЮК**

# Карцінкі з глыбінкі (7)



■ Ручнік на крыжы каля Янцэвіч



■ Школьны будынак у Клюковічах

У Клюковічах цэнтр вёскі знаходзіцца паблізу расхадных дарог. Калі стаць на скрыжаванні і глянуць ва ўсходнім напрамку, на першым плане перад вачыма пакажуцца дзве крамы. Адна, што па левай руцэ, гээсаўская, расталожаная вышэй, а другая, прыватная — ніжэй. Тыя крамы быццам былі на шалях, што паказваюць іх грамадскую вагу. У гээсаўскай краме — як у царкве, дзе божыя дары знаходзяцца за прылаўкам, быццам за іканастасам, быццам прапанаваны там тавар быў нейкім сакрум, якім, быццам пастыр, загадвае прадавачка. У супрацьлеглай прыватнай краме тавар знаходзіцца ў зашклёных шафах, як на рэкламным банэры, грэшна спакушаючы сваёй блізкасцю. Тут рынкавы парадак, дзе пакупніку тавар прапануецца амаль нахабна, а ў гээсаўскай жа краме тавар быццам адсоўваецца ад пакупніка, прыгадваючы не так даўно мінулы час, дзе народу тлумачылася, што ўзніклі нейкія з таварам складанасці, воляй-няволяй уводзячы афіцыйна атэістычны народ да посту, які, як тлумачылі не так даўнія дадвенікі, ва ўмовах сацыялізму з'яўляўся перажыткам, прыносячым яўную шкоду здароўю. За гээсаўскай крамай апусцелы будынак былой школы, за прыватнай — апусцелы будынак былой Грамадскай рады...

55 гадоў таму „Ніва" пісала: „У Клюковічах непадалёк школы „Белы домік" — бар ГС, у якім кожную нядзелю можна спаткаць нямала п'яных. Сюды прыходзіць (і знаходзіць разрыўку ў гарэлцы) шмат моладзі таму, што ў Клюковічах няма ні святліцы, ні дома культуры". Калі не памыляюся, дык мова тут пра той будынак, у якім зараз адно тая гээсаўская крама. Але бара там ужо няма: не той час, моладзі ўжо няшмат. Затое насупраць, побач прыватнай крамы, „піўны агародчык", дзе дзяжурыць нешматлікі вясковы „актыў", дзе, як у нашым парламенце, вядуцца ажыўленыя прамовы, адно тут „парламент" больш эгалітарны — усе яго ўдзельнікі сядзяць у „прэзідыуме", значыць на лавах за сталом.

Семдзесят гадоў таму на нашу тэрыторыю завітаў новы грамадскі парадак. У 1956 годзе „Ніва" пісала: „Між дрэвамі парку стаіць пахілены ад старасці двор былога пана Хрыстафора Атупы. 200 га зямлі і 100 га лесу рабілі жыццё пана заможным і бесклапотным. З мар пана і працы парабкаў узводзіліся новыя будынкі, ставы, раслі даходы, багацеў двор у Клюковічах. Восенню 1944 года парабкі і работнікі пачалі мераць і дзяліць панскую зямлю. Ведалі, што прыйшла іх улада. Па вечарах сядалі на парогах хат і слухалі расказаў знаходзячыхся ў вёсцы чырвонаармейцаў, як гэта яны ў сябе праганілі памешчыкаў. Міналі першыя, цяжкія, пасляваенныя гады. У гэтыя гады парабкі Атупа часта размаўлялі аб сваёй не заўсёды лёгкай долі. Думалі, як зрабіць сваё жыццё лягчэйшым, лепшым. Было гэта дзесь так у 1948 ці 1949 годзе, калі ў Клюковічах упершыню пачулі аб нейкіх там сельскагаспадарчых каапэратывах. Пачала разводзіцца па хатах плётка, што будуць калгасы, што адбяруць зямлю па рэформе, што зноў будуць гнаць як пан да супольнай працы. А ў іншых паветах і вёсках ужо яны арганізаваліся. Паехалі гаспадары з Клюковіч у Чыжы і Крывую пабачыць, пагаварыць, параіцца — а мо гэта і добрая рэч, гэтыя сельгаскаапэратывы. А вораг рабіў сваё. Мала свядомыя людзі і святошы высунулі „самыя моцныя" аргументы: што гэта божая кара, што нават нейкі там вусаты чырвонаармеец некалі папярэджваў перад калгасамі, што будуць супольныя жонкі, кацёл. Але група энтузіястаў была неадступнай. У 1953 годзе пасля хвалюючага сходу 19 гаспадароў падпісалася пад статутам. Але якась ніхто не браўся за супольную працу. Восенню 1954 года 11 членаў сельгаскаапэратыва выйшла на супольную сяўбу, на супольнай зямлі. Сеялі жыта. Ураджай быў добры, збіралі яго са спевам, капалі бульбу, другі раз супольна сеялі жыта, малацілі. (...) А ёсць чым пахваліцца. 132 га зямлі і то добрай, на якой у гэтым годзе засеяна 10 га пшаніцы, 15 га жыта, 6 га бульбы, 1 га кукурузы, 5 га канюшыны і 1 га цукровых буракоў. (...) Вецер хістае ў ставах чароты, амаль да самага берага падплываюць карпы, якія важаць хіба па 8 кг і больш".

А ўжо ў 1959 годзе тая ж „Ніва" пісала: „З паўднёвага боку Клюковіч раскінуўся парк былога абшарніка Атупы, а ў парку знаходзіцца пастарэлыя панскія будынкі. У Клюковічах існавала спулдзельня прадукцыйная, члены якой у гэтым парку пабудавалі свіран і кароўнік. У адным з будынкаў у парку бачым памяшканне Прэзідыума ГРН, пункт аховы здароўя, пошту і касу ГСа. Ад гэтага будынка ідзе высаджаная дрэвамі дарога ў кірунку вёскі. Ужо некалькі год таму назад запланавана яе выбрукаваць. Сяляне навазілі зямлі і камення, але дарожны майстар цэлы час „мок" у гарэлцы і хаваўся ў кустарніку. І не сталася так, як праектавалася. 22 ліпеня дарога гэта так сама выглядзела, як некалькі год таму назад. Прыйдзе восень, пачнуцца дажджы і сяляне зноў конямі будуць выцягаць з балота самаходы, якія возяць тавар да ГСу."

Хапіла толькі тры гады, каб пра сельгаскаапэратыў пісаць у мінулым часе. Ужо ў яго пачатку „якась ніхто не браўся за супольную працу", у выніку абсеялі і абсадзілі толькі траціну добрай зямлі. Ды і культура працы таксама не павінна была абнадзейваць зачынальнікаў калектывізацыі: „Беластоцкая газета" ў 1951 годзе пісала: „Gminna Spółdzielnia w Klukowiczach posiada stację kopulacyjną: 2 ogiery, buhaja i knura. Niestety, w oborze, gdzie stoją konie i buhaj, brak jest drzwi, chociaż GS posiada dość duży zapas desek i w GS-ie pracuje stolarz, który chętnie drzwi by zrobił. Ogiery stoją po uszy w gnoju uwiązane na postronku do czego się da, czasami do słupa, a czasami do ledwie wyglądającej z gnoju sieczkarni. Konie nieraz szarpią się przy sieczkarni, a dzieciarnia śmieje się, że geesowskie ogiery sami sobie sieczkę rżną".

Прыведзеныя тут падзеі звышпаўвяковай даўнасці былі тады запісаны, агульна кажучы, пяром. Цяпер я іх перапісваю з дапамогай клавіятуры. А вось даўно-даўно, недзе з тысячу гадоў таму, людзі запісвалі гісторыю з дапамогай лапаты і тапара. І такая вось гісторыя, не надта дакладная, „як з-пад сякеры", была ў сівой даўнасці запісаная і каля Клюковіч. Запісаная яна з дапамогай лапаты на беразе рэчкі Пульвы, у выглядзе гарадзішча каля трох кіламетраў на поўнач ад вёскі.

Вікіпедыя: „Grodzisko z X wieku o średnicy 140 m x 110 m, położone 3 km na północ od wsi. Grodzisko otaczały trzy fosy i dwa wały, z których jeden wzmacniała kamienna ława. Razem z grodami w Zbuczu i Zajączkach można je wiązać z „mazowiecką" falą zasiedlenia tych terenów. Zostały one następnie zniszczony przed 1041 rokiem przez książąt kijowskich". І далей: „W 1945 [roku] w pobliżu Klukowicz miejscowy rolnik podczas orki znalazł skarb, który zawierał prawie 1000 srebrnych monet, tzw. dirhemów wybitych na terenie dzisiejszego Iraku między VIII a X wiekiem. Pierwotnie mogło ich być nawet 1500, ale część zagubiła się zanim trafiły do rąk archeologów. [Партал Лодзінскага музея: Znaczną ilość tych monet wyorał rolnik na własnym polu i nie bardzo wiedział co z nimi uczynić. Były zabawką dla dzieci, ozdobą uprzęży konnej i znakiem własnościowym owiec, wieszany na szyi zwierząt. Dopiero poprzez kolekcjonerów warszawskich dowiedzieli się o nim pracownicy łódzkiego muzeum i po żmudnych pertraktacjach monety trafiły właśnie do nas.] Monety zostały złożone do glinianego garnka i zakopane w ziemi około 910 roku. Odkrycie świadczy, że Klukowicze miały wówczas duże znaczenie, jako miejsca, przez które przewożono, lub do którego dowożono monety arabskie".

Так вось маецца справа з гісторыяй, запісанай лапатай. Яна павярхоўная і ананімная. Ды нават тая пісаная пяром не згадвае, як далёка ад гарадзішча быў знойдзены клад. Невядома таксама, як і калі манеты трапілі ў наваколле Клюковіч, хто іх і з якой мэтай закапаў. Магчыма, што ў час нападу на паселішча нехта прыхапіў каштоўнасці з сабою, захоўваючы іх у сакрэтным месцы, адно толькі самому не ўдалося захавацца... Аднак пра самі манеты, дырхемы, пісаныя звесткі захаваліся.

З VII стагоддзя арабскія ўладары сталі біць уласныя манеты. Залатыя манеты называлі дынарамі, сярэбраныя дырхемамі і медныя фальсамі. Яны ўжываліся ў гандлёвых зносінах з вонкавым светам, а іх вартасць вызначала іх вага. Яны былі асноўным грашовым сродкам на тэрыторыі ўсяго Леванта — Дамаск, Багдад, Каір, Кордава, Ісфахан, Ташкент, Бухара, Дэлі, Канстанцінопаль, Генуя — у тым і Усходняй Еўропы; рубель стаў уваходзіць у гандлёвы абарот з XIII стагоддзя.

Інакш гарадзішча каля Клюковіч апісваў Слоўнік Каралеўства Польскага: „W pobliżu rzeki Pulwy horodyszcze kształtu czworokątnego. Boki mają 50 i 40 sążni, otoczone rowem szerokim ok. 1,5 sążnia [каля трох метраў] i wałem wysokim do 1,5 arszyna [каля метра]". Зараз гарадзішча тое зарослае пакуль што высокай травой, а ягоны роў маладымі дрэвамі — лазінай і бярэзінай; толькі з аднаго боку высіцца мажны дуб. У такіх умовах, да таго ж з аглядкай на гадзіннік, складана было меркаваць мне пра яго кшталт — мабыць гэта нейкі няправільны круг.

Гарадзішча распаложана пры мяжы вобрубаў Клюковіч і Янцэвіч, і яно знайшлося таксама ў апісанні ў Слоўніку апошняй вёскі: „Jancewicze, dobra nad rzeką Pulwą, pow. brzeski gub. grodz., gm. Połowce, 51 wiorst od Brześcia. Na gruntach dóbr, w uroczysku Zamczysko, w pobliżu Pulwy, okop owalny, otoczony wałem, mającym 79 sążni obwodu. W aktach z r. 1594, przechowanych w cerkwi sioła Zubacze, horodyszcze zwane jest Starym zamczyskiem". Такім чынам кожны аўтар унёс свой адметны ўклад у апісанне гістарычнага помніка.

Янцэвічы гэта зараз не вёска, толькі па сутнасці хутар побач шашы з Вілінава ў напрамку Чаромхі. Мяне прыемненька ўразіў старэнькі крыж на абочыне асфальтоўкі, абвязаны хрэстаматыйным беларускім ручніком. Даведнік: „Бытавыя ручнікі служаць для выцірання, у ручнікахтрапкачах насілі абед у поле, традыцыйна-абрадавымі прыбіралі абразы, рамкі з фотаздымкамі, люстэркі. Ручнікі ўваходзілі ў пасаг маладой, сведчылі пра яе працавітасць, умельства і густ. Маладая дарыла ручнік родным жаніха, ручніком абвязвалі свата, на ручніку дзялілі каравай. Каб выказаць гасціннасць і павагу, на ручніку падаюць хлеб-соль. Ручнікі ахвяравалі ў царкву, вешалі на прыдарожных і надмагільных крыжах, на ручнік прымалі народжанага, спускалі труну ў магілу". Ручнік, гэта наш своеасаблівы Космас...

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# У Масеве на Ануфрыя

У суботу, 28 чэрвеня гэтага года ў гонар св. Ануфрыя ў Старым Масеве (Гайнаўскі павет) адбыўся беларускі народны фэст. Тут па традыцыі адзначаюць свята ў гонар згаданага святога, якое сёлета выпала пасярэдзіне тыдня — у сераду, 25 чэрвеня. У Старым і Новым Масеве зараз пражывае 100 чалавек (у адным 61 і ў другім 39).

Пасля поўдня, а 17 гадзіне, калі пачынаўся фэст, свяціла сонца. Гадзіну пазней неба зацягнулася хмарамі і так ужо было да цямна. Пабачыць выступленні беларускіх мастацкіх калектываў прыехала многа людзей. Некаторыя гарадскія, каб адведаць сваякоў. У той дзень паабапал вуліцы стаяла многа аўтамашын. Некаторыя прыехалі нават з далёкіх айчынных гарадоў. Між іншым таму, каб паслухаць прыгожых беларускіх, польскіх, рускіх і ўкраінскіх песень. Для любіцеляў гэтых песень фэст з'яўляецца найлепшай нагодай.

Са сцэны на пляцоўцы перад святліцай прысутных прывітаў, зычыў прыемных уражанняў ад канцэрта ды мілых успамінаў ад мерапрыемства Мікалай Павільч, войт Нараўчанскай гміны. На свята прыехалі, між іншым, намеснік гайнаўскага старасты Андрэй Скепка, павятовы радны Міраслаў Кульбацкі, гмінныя радныя Павел Каліноўскі з Масева, Лявон Хлябіч з Нараўкі і Люба Янушкевіч з Міклашэва, солтыс Масева Аліна Філіновіч. У арганізатараў і гледачоў інтэрв'ю браў Марк Заброцкі, журналіст беларускіх радыёперадач Польскага радыё ў Беластоку.

Канцэрт распачаў маладзёжны гурт эстраднай музыкі „Калінка" з Беластока. У яго выкананні былі і спеў, і танцы. Праспяваў ён дзевяць песень, у тым ліку апрача беларускіх былі песні польскія і рускія. Спадабалася песня „Зямля мая, зямля мая Радзіма" і гурт спяваў на „біс". Пакінуў ён сцэну пасля 45-хвіліннага выступлення.

Як другі выступіў калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова пад кіраўніцтвам Мікалая Мяжэннага. Прыгожа праспяваў дзесяць песень (былі сярод іх адна польская і адна руская) ды на заканчэнне свайго выступу „Многае лета". Пры нагодзе варта дадаць, што „Цаглінкі" маюць свежа запісаны дыск з трыццаццю песнямі.



Цаглінкі

Калі на сцэну выйшлі „Бяседнікі" з Беластока, з-за пушчы прыплылі хмары і навокал пацямнела. Мы з маім сябрам Мікалаем Варанецкім (ён нішскі карэспандэнт) давай шукаць парасона, каб мець яго напагатове. Відаць,



Калінка

хмарам таксама захацелася паслухаць добрай музыкі. „Бяседнікі" разварушылі публіку. Пры іх музыцы перад сцэнай закружыліся пары. Музыкі доўга не выходзілі са сцэны. А то спявалі „Смэрэко", а то „Белые розы". Трымалі пастаянны кантакт з публікай. Хто высока падыме рукі і будзе біць у далоні, таму прапанавалі піва.

Была ўжо 19:20 калі на сцэну запрасілі мешаны калектыў „Ручаёк" з Белавежы. Дзяўчаты вельмі прыгожа спявалі. У іх такія мілыя, звонкія галасы. А майму сябру спадабалася ігра на акардэоне кіраўніка калектыву Марка Зубрыцкага. Мікалай Варанецкі ведаў, што іграць на гэтым інструменце Марка вучыў не хто іншы як Пётр Скепка, які зараз вядзе фальклорныя калектывы „Нараўчанкі" ў Нараўцы і „Жаваранкі" ў Махнатым. Дзяўчаты спявалі „Каліну-ягаду", „Пад тым дубам" і іншыя. Вядома ж, яны любяць усю прыроду Белавежскай пушчы. Яны такія пявучыя. Ім гэта па душы. Далі захапляючы канцэрт.

Вечар над Масевам стаяў цёплы і нават дождж не падаў. Ужо меў выступіць беларускі бард Віктар Шалкевіч (ён ужо паказаўся, прыехаў загадзя), якога мне вельмі хацелася паслухаць. А тут „Цаглінкі", з якімі я прыехаў на школьным аўтобусе, „рвуць" дадому, вельмі спяшаюцца. Некаторыя, каб яшчэ да цямна агародчык паліваць. Вось табе і на. Што там слухаць выступ знакамітага барда, калі ты сам спявак. Едзем, вяртаемся. Дома быў я перад 20-й.

Дадам, што стараляўкоўскія „Цаглінкі" мелі ў плане выступіць на заканчэнне мастацкай часткі. Так было на ўсіх афішах. І мне гэта вельмі адпавядала і я нікому не замінаў бы. А тут атрымалася інакш. Цяпер я задумваюся, ці зноў калі-небудзь ехаць мне з „Цаглінкамі" на канцэрт. Шмат часу ўжо прайшло, калі я з ахвотай ездзіў з калектывам. Цяпер вось узяў ды зноў паехаў, бо роварам з Ляўкова ў Старое Масева далекавата — каля дваццаці кіламетраў. А яшчэ і доўгі адрэзак дарогі вядзе праз лес. Найгорш было б вяртацца поцемку. У ровары дынама і цяжэй было б круціць педалямі.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**




Кінафестывалі — з'ява даволі цікавая. Прычым яны не мусяць мець узроўню кшталту Канскага, бо на фільмы, якія будуць паказаны на іх, людзі прыйдуць. Прыйдуць з прычыны звычайнай цікавасці — паглядзець, што новага хочуць паказаць арганізатары фестываляў. Цікавасць, як вядома, адна з найбольш моцных рухавікоў людскіх дзеянняў. Таму фестывалі з большага падабаюцца ўсім — арганізатарам, бо даюць магчымасць зарабіць грошы, гледачам, бо паглядзяць яны нешта дагэтуль нябачанае, рэжысёрам, бо іх фільмы пачынаюць абмяркоўваць і яны апынаюцца ў цэнтры ўвагі, ну і акторам, бо паказаць нейкаму журы сваю ігру, значыць, павысіць верагоднасць заўважання з боку іншых рэжысёраў. Таму кінафестывалі, пэўна, ніколі не страцяць сваёй папулярнасці.

У кастрычніку гэтага года ў Варшаве пройдзе чаргова, ужо IV Фестываль беларускага кіно «Bulbamovie». Ідэя фестывалю, калі зазірнуць на яго сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **www.bulbamovie.pl**, заключаецца ў: 1. Папулярызацыя беларускага кіно ў Польшчы (а з дапамогай кіно знаёмасць з самой Беларуссю; 2. Дапамога маладым беларускім стваральнікам кіно, іхная «раскрутка», адукацыя. Пра гэта распавядаецца на старонцы «Фестываль».

Калі ж вярнуцца на галоўную старонку, то яе характарызуе слабое адрозненне ад галоўных старонак сайтаў іншых кінафестываляў. І асноўнай рысай тут з'яўляецца нейкая занядбанасць і нераспрацаванасць віртуальнага прадстаўніцтва. Аб гэтым сведчаць зусім недарочныя памылкі ў тэксце на галоўнай старонцы і некалькі відэаролікаў, змешчаных з левага боку цэлага выяўлення, — толькі некаторыя з іх наўпрост тычацца фестывалю.

Крыху ніжэй ідзе своеасаблівая галерэя рукі фотамастачкі Юлі Цяльпук «Беларускае кіно гэта...» з дэфініцыямі ўдзельнікаў ранейшых фестываляў «Бульбамуві». Цяжка сказаць наколькі яны трапныя, але іх аб'ядноўвае прыкладна адно высначэнне — беларускага кіно няма...пакуль. З чым ніяк нельга пагадзіцца, бо нават за савецкім часам беларускае кіно мела сваё развіццё і даволі моцна ўплывала на свядомасць людзей, якім сёння ад 35 гадоў. Прычым тут не толькі фільмы на тэму нямецка-савецкай вайны, але і вельмі цікавыя дзіцячыя стужкі, кшталту фільмаў пра кемлівага хлопчыка Дзяніса Караблёва.

Таму на галоўнай старонцы сайта больш-менш вартымі ўвагі падаюцца толькі расповеды кінакрытыка Пятра Чаркоўскага і рэжысёра Андрэя Кудзіненкі. Там ходзіць як пра фестываль, так і пра асобныя кінапрацы.

З сайта немагчыма дазнацца, калі непасрэдна адбудзецца ў Варшаве сёлетні фестываль. Каб знайсці адказ на гэтае пытанне, трэба зазірнуць на сайт Радыё «Свабода». Толькі там у адным з паведамленняў, што 2 ліпеня прайшло ў эфіры, даюцца даты гэтага кінафоруму — 24-26 кастрычніка.

«„Bulbamovie" ладзяць палякі, якім блізкая беларушчына. Іх беларуская мова — ладная і з польскім акцэнтам, шчыра вывучаная на факультэце беларускай філалогіі. Адзін з арганізатараў Януш Гаўрылюк, на пытанне «Навошта?» адказвае, што ён этнічны беларус, які нарадзіўся ў Польшчы і мае беларускамоўных продкаў», — распавядаецца ў артыкуле.

Усё гэта, зразумела, выдатна. Незразумела адзінае — чым назва «Бульбамуві» адрозніваецца ад прыкравядомага ў Беларусі забаўляльнага «Бульбаш-хола», які хочуць пабудаваць побач з урочышчам Курапаты? Няўжо завезеная з-за акіяна гародніна гэта адзінае, з чым можна атаясамляць беларусаў?

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Дата з календара

Жыццё адданае змаганню

## 125 гадоў з дня смерці Фларыяна Міладоўскага

У календары бягучага года сярод круглых дат сцілым радком двойчы прабягае прозвішча кампазітара Фларыяна Міладоўскага. У траўні споўнілася 195 гадоў з дня яго нараджэння, а 8 ліпеня — 125 гадоў з дня смерці. Але імя гэтага ўраджэнца беларускай зямлі дагэтуль мала вядомае нават сярод адукаванай грамадскасці. Хоць яшчэ ў 1980 годзе музыказнаўца Алена Ахвердава ў часопісе „Помнікі гісторыі і культуры" надрукавала артыкул, прысвечаны выдатнаму піяністу і педагогу.

Кампазітар Фларыян Міладоўскі нарадзіўся ў Мінску. Бацька яго паходзіў са старажытнага шляхецкага роду, што некалі валодаў маёнткам Навадворкі ў Наваградскім павеце. З часам Міладоўскія збяднелі і пераехалі ў Мінск, дзе бацька Фларыяна даваў урокі музыкі. У доме Міладоўскіх часта ладзіліся музычныя вечарыны, на якія ахвотна збіраліся аматары музыкі. Пачатковую музычную адукацыю Фларыян атрымаў у бацькі, потым вучыўся ў Вільні (у Ф. Цібэ), Мінску (у Дамініка Стэфановіча), Берліне, Вене. У 1829 г. у Вільні адбыўся першы канцэрт 10-гадовага Фларыяна, які меў значны поспех. У гэты час ён ужо напісаў шэраг мазурак, вальсаў, паланэзаў. У пачатку 1830-х гг. з поспехам прайшлі яго сольныя выступленні ў Мінску, Слуцку, Вільні і іншых гарадах. Яго імя стала вядомае за межамі Беларусі. У 1836 г. па запрашэнні графа Тышкевіча ён вучыў музыцы дачок графа ў маёнтку Чырвоны Двор пад Коўнам і адначасна займаў пасаду дырыжора сімфанічнага аркестра. За кароткі час пад яго кіраўніцтвам гэты аркестр стаў адным з лепшых прыватных аркестраў Еўропы.

У Чырвоным Двары Міладоўскі творча працаваў да 1841 г., потым па парадзе Станіслава Манюшкі паехаў у Берлін, каб прадоўжыць музычную адукацыю. Там меў асабісты кантакт з Феліксам Мендэльсонам, Ферансам Лістам, які ўключыў „Экспромт" Міладоўскага ў складзены ім зборнік „Das Pianoforte". Праз два гады вярнуўся ў Чырвоны Двор і зноў стаў кіраваць аркестрам. Пасля смерці ўладальніка Чырвонага Двара аркестр быў распушчаны, а Міладоўскі па запрашэнні Манюшкі ў 1851 г. пераехаў у Вільню. У 1855 г. ён разам з сям'ёй пераехаў на сталае жыхарства ў маёнтак Мацкі, што на Міншчыне. Аднačасна з кампазітарскай творчасцю (аперэта „Канкурэнты") у Мацках займаўся і літаратурнай дзейнасцю. У 1857-1860 гг.рэгулярна пісаў артыкулы для польскага музычнага часопіса „Ruch Muzyczny" па праблемах развіцця музычнай культуры Беларусі, Літвы, Польшчы. Сярод твораў Міладоўскага акрамя „Канкурэнтаў" таксама 2 імшы, „Магніфікат", смычковы квартэт, 3 фартэпіянныя трыо, 2 санаты для фартэпіяна ў 4 рукі, розныя песні, мазуркі, паланэзы, накцюрны, багатэлі, выдадзеныя ў Парыжы, Вене, Варшаве, Мінску („Паланэз на 4 рукі для Міхася і Ясі", урыўкі з „Канкурэнтаў", зборнік „Польскія песні") і Вільні. На жаль, бальшыня твораў Міладоўскага засталася ў рукапісах, месца знаходжання якіх пакуль не выяўлена.

У 1862 г. эмігрыраваў у Францыю і пасяліўся ў Мецы. 5 гадоў выкладаў ігру на фартэпіяна ў вышэйшай музычнай школе ў Сан-Клеменце. Апошнія гады жыў у Нансі, потым у Бардо, дзе і памёр. Міладоўскі належаў да той часткі мастацкай інтэлігенцыі, якая закладвала асновы беларускай музычнай культуры, спрыяла ўзнікненню і пашырэнню на Беларусі музычнага прафесіяналізму. Нездарма па таленце знаўцы параўноўваюць яго са Станіславам Манюшкам.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Чаромхаўскі аповед (14)

Будова тэхнічна-адміністрацыйнага павільёна і вакзала ў Чаромсе была ідэяй Вузлавога камітэта ПАРП. Інвестыцыя рэалізавалася ў гонар X З’езда ПАРП і шпарка рушыла з месца. У пабудове ўдзельнічалі чаромхаўскія ўстановы. Па дамове з выканаўцам, а было ім Рамонтна-будаўнічае прадрыемства ў Бельску-Падляшскім, кожная служба вымушана была вызначыць неабходную колькасць некваліфікаваных работнікаў, а тэхнічныя кадры забяспечвала фірма. У коле чыгуначнікаў знайшліся мулярскія спецыялісты, якія былі адкамандзіраваны ў будаўнічую брыгаду на час будовы станцыі. Да іх належалі Мікалай Маркевіч і Віктар Рошчанка. Штодзень у будове ўдзельнічала некалькі дзясятак чыгуначнікаў. Такім чынам будаўнічае прадпрыемства змагло адначасова весці будовы станцый у Чаромсе і Бельску-Падляшскім. Такую ўмову прад’явіў у Цэнтральнай дырэкцыі чыгункі дырэктар прадпрыемства. Калі б цэнтральныя ўлады ПКП не пагадзіліся на прапанову, дык бельская фірма адмовілася б ад чаромхаўскай будовы.

Чыгуначная інвестыцыя доўжылася каля трох гадоў. Святкаванні здачы ў карыстанне вакзала праходзілі напярэдадні Дня чыгуначніка ў час бурлівых грамадска-палітычных перамен у верасні 1989 года. Гэта было гістарычнае мерапрыемства. Выступіў духавы аркестр чыгуначнікаў. Удзельнічалі прадстаўнікі ваяводскіх партыйных і адміністрацыйных улад. Перадавым і заслужаным у грамадскай працы чыгуначнікам, дырэктар Альшэўскі з Цэнтральнай дырэкцыі чыгункі ўручаў залатыя і сярэбраныя адзнакі „Перадавы чыгуначнік”, а „Заслужаны Беласточчыне”— прадстаўнік ваяводскай адміністрацыі. Сярэбраныя адзнакі „Перадавы чыгуначнік” і „Заслужаны Беласточчыне” атрымаў ніжэйпадпісаны.

На зломе васьмідзясятых і дзевяностых гадоў Чаромха квітнела. Чыгунка была карміцелькай для жыхароў навакольных вёсак. Людзі будаваліся. Ставілі шыкарныя мураванкі, агароджы. Такім чынам вырас новы пасёлак на ўрочышчы „Каганка”. Дзяржаўная чыгунка задбала пра новыя кватэры для працаўнікоў у двух новаўзведзеных жылых корпусах. Такі ж блёк па вуліцы 1 Мая быў прызначаны афіцэрам Савецкай Арміі, якія неслі службу ў камендатуры ЗКУ. У перыядзе будовы станцыі мае кантакты з ЗКУшнікамі пакрысе абмяжоўваліся. Накапілася процьма службовых абавязкаў. Кожны другі дзень знаходзіўся я ў камандзіроўцы. Вядома, новая інвестыцыя (трохпавярховы корпус) патрабаваў шматлікага абсталявання. А гэта змяшчалася ў рамках службовых абавязкаў загадчыка складоў. Аднак трапілася нагода для „перадышкі”...

Набліжаўся Вялікдзень. Спатрэбілася мне крышачку напітку, „штосьці для духу”. Зразумела, свойскага вырабу. Па рэкамендацыі ў своеасаблівы тавар я мог забяспечыцца ў прыпушчанскай вёсцы. Папрасіў затым камандзіра ЗКУ, каб падвёз мяне ў назначанае месца. Падаліся мы трое: Славік Сала ва ўніформе падпалкоўніка Савецкай Арміі, шафёр Ігар Кандрашын і я. Калі машына спынілася на панадворку прыяцеля, від „газіка” ашарашыў гаспадара. Падумаў, што міліцыя прыехала зрабіць вобыск. Стаяў быццам слуп солі, не варухнуўшыся з месца. Вялікае здзіўленне праявіў тады, калі пабачыў мяне, як я выходзіў з машыны ў кампаніі савецкага афіцэра. Не меншае здзіўленне праявіў таксама, калі на капоце аўтамабіля ўгледзеў пяцікутную чырвоную зорку.

— Ды хто яны такія? — прашаптаў ціхенька гаспадар на польскай гаворцы.

— Не палохайцеся...Свае хлопцы...

Гаспадар прапанаваў прайсці да летняй кухні, мяжуючай з домам на панадворку. Да кампаніі далучыліся Славік з Ігарам.

— У дрэнны час трапілі, — загаварыў гаспадар. Перад Вялікаднем паршука закалолі. Вепручка сын на кухні разбірае. Затым „свяжынкі” пакаштуем... — і тут жа шмыгануў з памяшкання.

Неўзабаве вярнуўся з міскай духмянай смажаніны. Прыселіся да пачастунку. Папівалі, зразумела, своеасаблівым напіткам дамашняга вырабу. Не заседжваліся мы доўга, каб не адрываць гаспадара ад перадсвяточных абавязкаў. Прыяцель напоўніў некалькі бутэлек „эліксірам”, і ўручаючы іх пры развітанні, жадаў нам шчаслівай дарогі і прыемнага велікоднага адпачынку.

Так закончыўся наш лясны эскапад у прыпушчанскую вёску.

*(працяг будзе)*

**Уладзімір СІДАРУК**

Фота з архіва аўтара

**У першым радзе злева направа: муляры-чыгуначнікі Мікалай Маркевіч і Віктар Рошчанка ды ніжэйпадпісаны чакаюць ушанавання адзнакамі**

## Прыемная навінка

12 лютага 2014 года была падпісана дамова на рэалізацыю задачы „Разбудова каналізацыйнай інфраструктуры на тэрыторыі Чаромхаўскай гміны”, якая абнятая еўрасаюзнай дапамогай са сродкаў „Еўрапейскага інструмента суседства і партнёрства” ў рамках „Праграмы трансгранічнага суседства і партнёрства Польшча-Беларусь-Украіна 2007-2013”. У выніку таргоў была выбрана выканаўчая фірма „Зея” Рышарда Зеі з Ломжы. Разбудова каналізацыйнай сеткі будзе праводзіцца ў Чаромсе-Станцыі на вуліцах Вісьнёвай, Ланковай, Вонскатаровай, Длугай, Пшыдварцовай і ў Кузаве. Тэрмін завяршэння рэалізацыі задачы назначаны на 21 жніўня 2015 года.

Работы рушылі поўным ходам. У Кузаве пачаліся з-пад царквы праз рэчку Нурэц у напрамку казармы (пры даўнейшым брэсцкім пуці) і далей у напрамку Чаромхі. 25 чэрвеня я правёў размову з аператарам экскаватара, які займаўся асушваннем рэчышча.

— Каштоўная гэта інвестыця, — сказаў суразмоўца. — Каб пракласці каналізацыйныя трубы, трэба асушыць рэчышча і пакласці іх ніжэй на 1,75 метра глыбіні. Тэрыторыя падмоклая, скрозь вада падыходзіць. Ды і ў Кузаве будзе праблема з пракладкай каналізацыйнай сеткі, паколькі з правага боку вуліцы (глядзеўшы з Чаромхі-Станцыі) пракладзены водапровад, дык каналізацыя будзе пракладзена з процілеглага боку. Затым злучальныя каналы будуць праходзіць пад асфальтам. Для гэтай мэты спатрэбіцца тэхніка. А гэта дадатковыя кошты. Зараз у нашай брыгадзе працуе дзесяць чалавек. Неўзабаве будзе папаўненне і пачнем працу сіламі чатырох-пяці брыгад. Заканчэнне інвестыцыі прадбачваецца на жнівень наступнага года. На тэрыторыі Кузавы будуць збудаваны два калектары, якія будуць падключаны да гміннай ачышчальні сцёкаў.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Адгаданка

1. „салігорскі” хімічны элемент, 2. сірыйскі горад між Дамаскам і Хамай, 3. важная фігура, 4. часовая ізаляцыя заразных хворых, 5. ручны млын, 6. неядавіты паўзун, 7. сузор’е з Бетэльгейзе і Рыгелем або сын Пасейдона, 8. сукупнасць паўтаральных працэсаў у... матацыкле, 9. праваслаўны храм, 10. выспа Адысея, 11. бацька Рагнеды, 12. шырокая прастора, 13. урачыстая вячэра напярэдадні Каляд, 14. лясная раслінка, што цвіце ў верасні, 15. палітыка знішчэння вялікіх груп насельніцтва, 16. мужчынскае імя у... палякаў, 17. сын бацькоў.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская прыказка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 25 нумара**

Ака, акула, база, Балі, Басаў, месяц, сена, шэраг.

Рашэнне: **На смелага сабака брэша, а баязліўца кусае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,** BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.

# 13.07 — 19.07

**(22.03. — 20.04.)** 11-15.07. запрагнеш пашалець і перажыць гарачую гісторыю. Шмат спраў зрэалізуеш з поспехам, які табе нават не сніўся! З 16.07. знаёмства пойдзе нечакана добра. 17-21.07. будзеш вельмі запальчывы; асцерагайся выбухаў злосці, бо могуць сустрэць цябе прыкрасці.

**(21.04. — 21.05.)** У першыя дні тыдня пакончай фінансавыя справы. Тое, чаго вельмі не любіш — пакупкі, афармлянне спраў ва ўстановах ці прыбіранне пойдуць табе прыпяваючы, асабліва з 15.07. Удасца табе задбаць аб свой выгляд, папрактыкавацца. На працы работы шмат, але лепш паробіш усё сам.

**(22.05. — 22.06.)** Выглядаеш прывабна! Дацэніш сілу кампрамісу. Радня і сябры будуць табою ганарыцца! Заробкі яшчэ не пагоршацца. Задбай толькі пра дамовы і абавязкі. З 17.07 (да 21.07.) пазнаёмішся з людзьмі, якія пашыраць твае гарызонты і прабудзяць цябе да творчага дзеяння. Дзякуючы ім можаш дасягнуць таго, аб чым таемна марыш.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш мець сілы ўстаяць перад дыктатарскімі замашкамі сваёй другой паловы. Сярод аматараў самотнага Рака можа паявіцца хтосьці вельмі цікавы (магчыма, што старэйшы за цябе), але выбірай асцярожна. Ракі з 5-9.07. здабудуць усё што толькі захочуць. 13-15.07. знакаміта дагаворышся з людзьмі, арганізуй прыёмы і сустрэчы. З гэтага тыдня кінешся ў рамонты, змену інтэр’еру. З 17.07. (да 21.07) будзеш злосны; не парань блізкай асобы!

**(24.07. — 23.08.)** Акаляе цябе штораз больш прыязных да цябе асоб. Асабліва ад 16.07. перапоўніць цябе жыццярадаснасць. Прачнецца ў табе ўмеласць уплывання на іншых. Пачуццё гумару, сардэчнасць, удачы. Але з 17.07. (да 21.07.) штосьці можа перашкодзіць табе ў планах; трымай эмоцыі на прывязі!

**(24.08. — 23.09.)** Цудоўная, рамантычная атмасфера ў сустрэчах. Зоркі з 17.07. (да 21.07.) памогуць табе ў афіцыйных размовах і нялёгкіх негацыяцыях; здабудзеш тое што хочаш, прытым з мілымі прыгодамі. Але да 15.07. не бяры пазык, не інвестуй. Ваяжуй. Каля 18.07. імпрэзуй, прымай гасцей. Засяродзься на сабе, на сваім здароўі, адпачывай.

**(24.09. — 23.10.)** Канікулярныя флірты і прыгоды; сур’ёзна можаш падумаць пасля 18.07. Але калі нават зашалееш у каханні, захаваеш цвярозасць; пакажаш вернасць і пастаяннасць у пачуццях. Да 16.07. асабліва добра складуцца стасункі з раднёй. Благія эмоцыі разгрузіш фізічнымі практыкаваннямі.

**(24.10. — 22.11.)** Да 15.07. гарачыя пачуцці; сувязь можа быць надта гарачай, ды неабавязкова моцнай. З 16.07 чакае цябе паласа поспехаў і вялікай актыўнасці. У галаву заляціць табе мноства задум, а адважныя прыёмы прынясуць многа задавальнення. Можаш зрабіць добрыя капіталаўкладанні; можаш купіць новыя прылады, аўто, пайсці на курсы. Дзякуючы гэтым інвестыцыям можаш выканаць нейкі добра платны заказ, які дагэтуль быў па-за тваім абсягам.

**(23.11. — 22.12.)** Да 17.07. будзеш вельмі ўлюблівы. Але шмат каго ўбачыш у горшым святле з-за іх зайздрасці. На гэтым тыдні твой настрой яшчэ будзе ненайлепшы, прынамсі спачатку. Цяпер можаш узяць крэдыт або добра пакласці грошы. Дбай аб сябе, адарвіся ад штодзённшчыны.

**(23.12. — 20.01.)** 13-14.07. будзеш празорлівы, пільны, не зробіш памылкі ў дзеянні. З 17.07. (да 21.07.) не ўпірайся на сваім, пільнуйся, з кім маеш дачыненне, не давярай абыкаму. Будзеш смелы і аптымістычны, гэта твая карта ў змаганні за сэрца абранніка.

**(21.01. — 19.02.)** Твае парады будуць трапныя і патрэбныя. Старайся лішне не крытыкаваць, асцярожна падбірай словы. Форма яшчэ ненайлепшая. Не перанатужвай арганізму. Але ж настрой у цябе добры, аж да 26.07.! З 16.07. кідайся на глыбокую ваду; удачы ў юрыдычных і гандлёвых справах; час на новыя задумы і фінансавыя карысці. З дня на дзень паправа сітуацыі на працы і ў фінансах.

**(20.02. — 21.03.)** Знакамітая форма! Канфлікт з шэфам (17-21.07.) разыдзецца па касцях, але лепш з ім увогуле не канфліктуй. З 18.07. шчасце ў каханні і фінансах; паявяцца спрыяльныя супадзенні і шмат спраў пачне ў цябе складвацца па-твойму. Самотныя Рыбы з 18.07. патануць у новым каханні (нават калі любоў не будзе пакуль узаемная, фінал чакае неблагі!). Не павучай іншых, дасягнеш больш.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**



# Без долі
## на канцы свету! (2)

Хто быў той правакатар, які з'явіўся ў Бобенку ў часы нацысцкага ліхалецця? Ці ён быў немец, украінец, рускі, паляк? А можа свой, туземец з наваколля, апантаны прагай помсты на нейкім ворагу з вёскі? Чаму сваю крыважэрную інтрыгу разыграў такім прымітыўным спосабам? Думаеш і пачынаеш сумнявацца: ці сапраўды спроба пацыфікацыі вёскі нарадзілася ў адной хворай галаве? Здзіўляе і тая хуткасць, з якой з'явіліся карнікі, гатовыя страляць, вешаць і дабіваць раненых дубінай... Быццам, заранёў нехта запланаваў жахлівае гульбішча коштам безабаронных прасцячкоў.

Лідзія Назарук запамятала шмат з атмасферы трагедыі, аднак даты і прозвішчы пераблыталіся або зусім ужо вылецелі з яе памяці. Дадатковы ўрон для свядомасці нанеслі перасяленні: з вёскі на хутар, з хутара ў вёску, з вёскі на хутар, з хутара ў горад і з горада на хутар. У Бобенцы запамятала толькі свой канец вёскі, праз што ўся мясціна ёй, тады пяцігадовай дзяўчынцы, здавалася вялікай і шматлюднай.

Запамятала таксама прыхадскую царкву і могілкі ў Амелянцы, куды цудам ацалелыя вяскоўцы ездзілі закупіць малебен за добрага немца. Здарэнне, пра якое раскажа, падасца мне гатовым сцэнарыем вечнай гісторыі, дзе нягледзячы на ахвяры, усё ж перамагае дабро...

* * *

Бобенка ў часы нямецкай акупацыі запамяталася для маёй субяседніцы вялікай і абжытай вёскай. На вуліцы ад рання да вечара бурліла жыццё, ганяліся дзеткі, рыкалі каровы, гергеталі гусі. Тут пад пушчай, далёка ад свету, жыццё ў цені акупацыі цякло сваім простым рытмам. Для маленькай Лідзіі ўсё было новым і незвычайным. А сваякоў — на адной руцэ не палічыш! Уся радня маці і бацькі. Да вайны сямейка Лідзіі перабралася гаспадарыць на хутар. Пабудаваліся, абгарадзіліся. Ледзь абжыліся, зноў трэба было вяртацца ў вёску. Як прыйшоў немец, хутаранцаў загналі назад у вёску. Каб, здалёк ад вачэй, партызанаў не кармілі...

— Мы хоць жылі пры лесе, партызанаў не бачылі, — адзначае мая субяседніца. — Адно што яны ведалі, дык работа і работа.

Акупанты не пакінулі выбару. Бацькі Лідзіі зноў перацягнулі дом, і з пачуццём жыццёвай паразы, вярнуліся на старое месца. Цяпер іх задачай стала дастаўляць харчы і збожжа для рэжыму. Каб прыдбаць які кусок мяса, сяляне пераходзілі ў вынаходлівасці саміх сябе. Даволі спрытна „калолі" парсюка, якога раней трэба было выгадаваць у сакрэце перад вёскай.

— Найбольш баяліся суседзяў, — паясняе жанчына. — Людзі часта сябе *здавалі*. А за гэта, вядома, маглі пад сценку паставіць, расстраляць. Карацей, прыхаванае свінчо трэба было забіць без найменшага віску і рохкання. Дзеля гэтага насаджвалі яму на лыч мяшочак з мукой і абухам, трапным ударам між вушэй, адбіралі жыццё. Нелегальнае мяса не надта смакавала, яго крадком варылі ў вадзе, або падпечанае кансервавалі ў шмальцы. Ніхто не адважыўся вэндзіць каўбасак, каб вабным пахам не наклікаць бяды...

* * *

Гэта здарылася ў адзін летні будзень, верагодна ў сорак другім або трэцім годзе. На вуліцы ад рання кіпела ад дзіцячага гулу.



— Я не ведаю чаму калісь была такая мода, — задумваецца цётка Ліда. — Дзеці выбягалі на вуліцу са скібкай хлеба пасыпанага цукрам, іншы трымаў у жмені кусок таўканіцы. А ўжо найсмачней, калі хто хлеб шмальчыкам пашмаруе. Гэта значыла — ён багаты. Чаму так любілі есці на вуліцы — я не ведаю!

Як прыйшоў той незнаёмы ў вёску, ён да дзяцей падышоў і пытае:

— Дзеткі, а дасце мне хлеба?

Дзеці як дзеці, усе хацелі аддаць, што яшчэ мелі ў ручцы. Нашы людзі такія, што апошнім падзеляцца. І адзін хлопчык, якія меў скібку са шмальцам, кажа:

— *Натэ дзядзечку!*

І на хаду паабяцаў:

— *Пабягу, хай мама яшчэ дасць!А то вы пэўна галодны з дарогі...*

Немец скінуў свае лахі, даў сігнал для сваіх, і неўзабаве цэлы самаход немцаў у Бобенку прыкаціў. Пазганялі як жывёлу ўсіх людзей пад панадворак, дзе жыў той падшпарак, што хлебам абдараваў. А там пяцёра дзяцей у сям'і было. Іх усіх, як кацянят, на браме павешалі. А бацькоў расстралялі. Нас пад аўтаматамі трымалі, каб на ўсё глядзелі і памяталі...

Лідзія Назарук забылася імёны і прозвішча загубленай сямейкі. Усё адбылося ў трагічнай цішы. Людзі стаялі, паралізаваныя жахам і сваёй безабароннасцю. Магчыма, яны адчувалі, што крывавая гульня толькі пачалася, што найгоршае перад імі...

*(працяг будзе)*

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**



ISSN 0546-1960